# Зьмест.

Стар.

1. Трэба рыхтавацца да „Сьвята Ўраджаю“ (*Сьц. Тупяневіч*) . . . 1
2. Зімовая выка (*М. Уліцін*) . . . . . . . . . 3
3. К засеву зімовага збожжа (*Агрон. Энгельгардт*). . . . . . 4
4. Шкоднікі поля восеньню (*А. Берзін*). . . . . . . . 6
5. Мокрая гніль бульбы (*Захар Дзянісаў*). . . . . . . 8
6. Прыборка і хаваньне корняплодаў (*А. Савельяў*). . . . . . 10
7. Капаньне бульбы і хаваньне яе зімою (*С. Тупяневіч*). . . . . 12
8. Як рабіць досьледы ў сялянскай гаспадарцы (*Б. А. Бабіцкі*). . . . 15
9. Нашы лепшыя летнія сарты яблык і йгруш (*М. Бурштэйн*). . . . 18
10 Аб зборы насеньня яблынь і йгруш (*Р. Гуржы*). . . . . . 19
11. Організуйце саюзы пладаводаў (*М. Калер*). . . . . . 21
12. Гадоўля парасят (*С. Журык*). . . . . . . . 22
13. Аб сыраварэньні (*В. Сьвірышчэўскі*). . . . . . . 24
14. Якое малако лічыцца дрэнным (*Вэтэрынар Агапітаў*). . . . . 26
15. Насацізна ў коняй (*Ів. Серада*). . . . . . . . 27
16. Гнілец і яго лячэньне (*Н. Фэдарака*). . . . . . . 30
17. Ураджай 1925 г. (*Н. Маркаў*). . . . . . . . 33
18. Меліорацыя і сялянства (*І. Ц.*). . . . . . . . 34
19. Апал торфам (*К. Іосялевіч*). . . . . . . . 35
20. Парады агронома (*І. Даведчык*). . . . . . . . 36
21. Памяці І. В. Даведчыка (*Рэд.*). . . . . . . . 37
22. Раздел крестьянских хозяйств (*Е. Вишневский*). . . . . . 38
23. Аб зьбіраньні насеньня лясных дрэў (*Проф. С. П. Мельнік*). . . . 41
24. Культурная гаспадарка Язэпа Шкадарэвіча (А. *Дзямідовіч*). . . . 44
25. Што робіць у сваёй гаспадарцы селянін Пятрок Трапашка (*С. Т—н*). . . 46
26. Дзьве вёскі (*С. Т.*). . . . . . . . . . 47
27. С.-г. хроніка. . . . . . . . . . . . 49
28. Рыхтуемся да с.-г. выстаўкі (*Л. Трыпутнік*). . . . . . 50

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 8. Жнівень 1925 г. № 8.

## Трэба рыхтавацца да „Сьвята Ўраджаю“.

Цяжкая й напруджаная праца нашага селяніна над сваёй палоскай па здабываньню лепшага ўраджаю падыходзіць к канцу.

Усё, што задумаў і зрабіў новага і лепшага ў сваёй гаспадарцы селянін вясною і летам, цяпер дае свае вынікі: селянін *сабраў* ці канчае *зьбіраць ураджай*.

Для селяніна такі дзень, як канец працы на полі і раней быў асаблівым, бо й да гэтага часу яшчэ дзе-ні-дзе захаваліся такія сьвяты, як дажынкі, дасеўкі, дамалоткі і г. д.

Цяпер-жа Савецкая ўлада заканчаньню працы селяніна на полі надае вялікае культурнае значэньне. Кожны год увосень, пасьля поўнага збору ўраджаю, адзін дзень (у Беларусі 14 кастрычніка) лічыцца сялянскім сьвятам, „Сьвятам Ураджаю“.

У гэты дзень сялянства кожнага раёну і вёскі перад сваімі суседзямі, мясцовымі працаўнікамі і прадстаўнікамі Савецкай улады паказвае свае лепшыя прыклады с.-г. працы. Усё, што лепшага, карыснага і новага пасьпеў зрабіць за год гаспадар, ён паказвае на с.-г. выстаўцы. Сам гаспадар і тлумачыць усім, якім насеньнем ён сеяў, як выробляў поле, лепш угнойваў і г. д.

Аглядаючы на выстаўцы ўсё лепшае, што здабыта ў тым-жа раёне, дзе і клімат, і поле аднолькавы, селянін ужо загадзя малюе сабе плян усіх новых палепшаньняў для наступнага году, селянін вучыцца на выстаўцы.

На выстаўках сяляне паказваюць ня толькі свае ўраджаі, снапы збожжа, травы, лён, кармовыя буракі, бульбу, гароднiну і садовіну, але й скаціну (кароў, сьвіней, коняй). Таксама паказваюць яны і свае хатнія вырабы: мужчыны—сталярскія, бандарскія, кавальскія і сьлясарскія вырабы, а жанчыны—розныя тканіны, палатно, шыцьцё адзежы і г. д.

Найбольш здольныя і старанныя гаспадары ці гаспадыні на выстаўках атрымаюць прэміі (розныя машыны, насеньне і г. д.). Але й адзін толькі агляд выставак для сялянства зьяўляецца вельмі цікавым. Гэта наша школа, гэта шлях да с.-г. культуры, бо тут паказваецца усё, што зроблена ў сельскай гаспадарцы, ня толькі за адзін год, але мо‘ і за доўгі ранейшы час.

А нашаму сялянству напэўна ёсьць што паказаць у дзень Сьвята Ўраджаю, бо дзякуючы тым крокам, якія робіць Савецкая ўлада па адбудове сельскай гаспадаркі, і працы самога сялянства,—мы маем відавочнае палепшаньне сельскай гаспадаркі, і яе шпаркае аднаўленьне і адбудову.



Дадам некалькі прыкладаў. Так, ужо шмат зарэгістравана, а то й проста вынаходзяцца паасобныя гаспадары-культурнікі, якія па сваім ураджаям на полі могуць раўняцца з культурнымі гаспадарамі Даніі *).

Другое, возьмем цягу да шматпольля. Да яго пераходзяць прысёлкі, цэлыя вёскі і паасобныя гаспадары, калі яны на хутарох. На першым месцы тут стаіць Аршанская акруга, (Горацкі, Дрыбінскі і Копыські раёны). Так, у Горацкім раёне нават плацячы студэнтам быўш. Горацкага с.-г. І-ту за працы па арганізацыі палявой гаспадаркі, да шматпольля перашло 150 гаспадароў, у Дрыбінскім раёне—186. Цэлыя вёскі й прысёлкі пераводзяцца вучастковымі агрономамі бяз кошту.

Шмат сялян іншых акруг і асабліва Менскай далёка пашлі ў зьменах сваёй трохпалёўкі і пашырэньні занятага папару. Так, у Менскай акрузе калі і застаўся яшчэ папар (сялянскі, раньні, чорны), то ня больш 10—15 проц. Гэта ўжо вельмі блізка падводзіць нас да сельскай гаспадаркі Нямеччыны.

Возьмем пашырэньне лубіну і сэрадэлі. Яны найбольш пашыраны ў Менскай акрузе (асабліва ў Койданаўскім, Узьдзенскім і Заслаўскім раёнах); для Аршанскай-жа акругі зусім звычайнае зьявішча лубін.

Канюшына таксама значна пашыраецца. Акрамя таго, у гэтым годзе сялянства павялічыла і насенныя вучасткі канюшыны, каб не плаціць лішніх грошай за насеньне вясною. Плошча бульбы даганяе, а то й правышае плошчу даваеннага часу. Пры шматпольлі разам з кармовымі буракамі яна займае асобную зьмену. Напрыклад, Дрыбінскі раён давёў засеў бульбы да 20 проц. ад усёй плошчы поля і адчувае патрэбу ў перараобцы яе ў крухмал ці сьпірытус.

Таксама сялянства пачынае карыстацца мінэральнымі ўгнаеньнямі. Шмат у якіх раёнах нават не хапае фосфарыту і супэрфосфату.

І яшчэ адно, зьніжэньне с.-г. падатку і даволі добры ўраджай гэтага году далі магчымасьць сялянству купляць розныя с.-г. машыны й прылады.

Найбольш купляюць сяляне плугі, бароны, пружыноўкі, малатарні, арфы і г. д. **). Усё гэта гавора, што наша сельская гаспадарка аднаўляецца і становіцца на верны шлях культурнага разьвіцьця.

У дзень „Сьвята Ураджаю“ і ў гэтым годзе мы можам ужо шмат чаго паказаць. Трэба толькі зараз-жа кожнаму селяніну падлічыць вынікі сваёй працы і ўсім зарэгістраваць у агронома свае экспонаты; а мясцовым працаўнікоm і ўстановам трэба добра нарыхтаваць сялянскае, як і ўсіх працоўных сьвята—„*Сьвята Ураджаю*“.

**Сьц. Тупяневіч.**

---

*) Напрыклад, Язэп Шкадарэвіч з Капыля (Случчына) пры $2^1/_2$ дзес. мае ўраджай бульбы 1800 пуд. і жыта 130 пуд. на дзес.

**) Прыблізна за 7 мес. Цэнтраземсклад НКЗ прадаў плугоў—25.000 шт., барон 4.000 шт., сартовак 777 шт., малатарань 476, сячкарань 520.

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Зімовая выка.

**Недахват корму—першы вораг і прычына заняпаду нашай сельскай гаспадаркі.**

**Сейце з восені зімовую выку ў папару на зялёны корм.**

**Зімовая выка дае раньні корм для скаціны.**

Бязкорміца зьяўляецца адной з прычын спустошаньня нашага поля і дрэннай яго ўраджайнасьці, а гэтак-жа заняпаду нашай жывёлагадоўлі і малой даходнасьці сельскай гаспадаркі.

Я хачу зьвярнуць увагу гаспадароў на павялічэньне корму ў гаспадарцы, якога можна дабіцца займаючы папар пад засеў травы на сена ці на зялёны корм. Звычайна, папар адводзяць пад выпас, а ў апошні час і пад засеў рознай ярыны. Гэта робіць гаспадару вялікую шкоду, бо засеў ярыны прымушае сеяць жыта па збожжы, што зьніжае яго ўраджай. Гаспадар-жа зацікаўлены ў большай карысьці ад поля, а для гэтага папар лепш скарыстаць пад засеў травы на сена.

Пры выбары травы неабходна трымацца правіла, каб траву можна было раней скасіць, і на полі пачаць правільны выраб папару. Такой расьлінай да гэтага часу часьцей зьяўлялася яравая выка; яна не патрабуе ўгнаеньня і, як бабовая расьліна, дае глебе азот. Яравая выка таксама ачышчае поле ад дзікай травы і інш., але яна позьніцца з ростам і прыбіраецца з поля толькі ў канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня. У такім выпадку застаецца вельмі мала часу на падрыхтоўку поля пад жыта, чаму і ўраджай бывае кепскі. Над выбарам скорарастучых расьлін вельмі доўгі час працавалі і працуюць дасьледчыя станцыі і ўрэшце знашлі расьліну для засеву папары ў нас — гэта зімовая выка.

Зімовая выка завецца яшчэ касматай, ці пескавой выкай. Струкі яе шырокія, кароткія і маюць 3-4 зярняткі. Зімовая выка дае самы раньні і добры корм у пачатку траўня, а ў другой палове траўня яна ўжо красуе і павінна быць сабрана, а поле ідзе ў выраб пад жыта. Такім чынам, зімовая выка зьяўляецца вельмі ўдалай расьлінай для занятага папару, бо пасьля ўборкі выкі застаецца шмат часу на падрыхтоўку зямлі пад засеў азіміны, калі зараз-жа вывозіць і заворваць гной. Пры гэтым ня трэба траціць часу, бо зямля з-пад выкі бывае пухкая і вільготная. Гэта неабходна ведаць усім гаспадаром, якія жадаюць мець і корм, і ўраджай жыта. Дзеля гэтага лепш усяго падсохшую выку злажыць у копы, паставіўшы іх правільнымі радкамі, а паміж копамі зараз-жа ўзараць. Можна для прасушкі зьвесьці траву і на другое месца.

Дзеля таго, што зімовая выка дае добры зялёны корм раньняй вясной, лепш сеяць яе на папары і карміць скаціну травой у стойле ці на прывязі, чым пускаць папар пад пашу. Гаспадару цікава скарыстаць кожны кавалак зямлі так, каб ён прыносіў чым больш ка-

рысьці. Займаючы такім чынам частку папару зімовай выкай для корму скаціны, другую палову поля можна рана пачаць вырабляць пад жыта. Поле-ж пасьля зімовай выкі таксама дасьць ураджай большы, чым сялянскі папар.

Зімовая выка расьце і на пескавым полі, чаму і завецца пескавой. Сеяць яе трэба ўвосень, пасьля адной глыбокай воранкі і баранаваньня. Сеяць лепш 21-23 жніўня. Высяваць насеньне лепш радковым сяўнікам. Выкі на дзес. бярэцца 7-8 пуд. і жыта $2^1/_2$-3 пуд. Жыта з выкай мяшаецца перад сяўбой. Жыта сеюць для падтрыманьня выкі, бо яна мае вельмі слабое сьцябло і адна палягае. Прыкрываць зямлёй насеньне трэба ня глыбей, як на 3-4 сант. Увосень выка вырастае на 12-16 сант. (3-4 вярш.), добра ўкараняецца, а жыта кусьціцца. Вясною-ж выка не адстае ад жыта і к часу выплываньня жыта выка пачынае красаваць. Прыблізна 20-26 траўня на сярэдняй зямлі выка вырастае ў поўтара-2 арш. вышыні і ў гэты час дае да 300 пуд. сена з дзес.

Сена зімовай выкі вельмі пажыўнае і скаціна яго есьць з ахвотай. Травой карыстаюцца для кармленьня з пачатку траўня. Калі выку сеюць на насеньне, то бяруць пудоў 6 выкі і жыта пудоў 4. Сьпее яна адначасна з жытам. Насеньня можна атрымаць 60 пуд. з дзес. і больш. Аддзяліць насеньне выкі ад жыта можна на сартоўцы („Зьмейка“ або на трыеры).

Насеньне выкі пакуль што вельмі дарагое ў нашай старане, бо зімовая выка зусім не вядома ня толькі звычайным сялянам, але й большсьвядомым гаспадаром. Зімовую выку я ўбачыў у 1919 годзе ў Рагачоўскім павеце на палёх, як дзікую траву. Калі прыбіраюць жыта, то гаспадары выкідаюць яе, як сарніну, што ня мае ніякае вартасьці. У мінулым 1924 г. я сабраў на сялянскіх палёх з паасобных расьлін 1 п. 10 фун. насеньня і пасеяў іх на паказальным полі Гарадзецкага агропункту. Дастаць-жа насеньне ў прадажы не магчыма. Можна чакаць, што з пасеянага мною насеньня ўвосень 1925 г. будзе пуд. 10, якое можа быць скарыстана для вопытных мэт і для разводкі насеньня.

Можна спадзявацца, што ў бліжэйшы час зімовая выка пачне пашырацца і па сялянскіх палёх, бо яна дае гаспадарцы добры корм і дазваляе раньні выраб папару.

**М. Уліцін.**

---

# К засеву зімовага збожжа.

Даць параду аб засеве зімовага збожжа, якая-б была прыгодна для ўсіх раёнаў Беларусі, амаль што не магчыма.

Гэты артыкул галоўным чынам зложаны з назіраньняў, зробленых у Бабруйскай, Калінінскай і Магілеўскай акругах, але аўтар яго знаёмы, хоць мала, і з паўночнаю часткай Беларусі.

У „Плузе“ ўжо пісалася, што пры малазямельлі і асабліва на лёгкіх глебах чысты папар не патрэбны.

Па досьледам Турскай с-г. станцыі ў гэтым годзе раньні папар даў 98 пуд. зярна і 200 пуд. саломы з дзесяціны, а іванаўскі—82 пуд. жыта і 170 пуд. саломы. Трымаючыся іванаўскага папару сяляне губляюць шмат збожжа. Мы ад душы раім папар заняты бульбай, грэчкай, выкай і лубінам на ўгнаеньне.

Падлічыўшы ўраджай, які быў на пескавой глебе дасьледчай станцыі, мы адразу ўбачылі карыснасьць засеву зімовага збожжа на занятым папары.

Ураджай збожжа грэчкі і бульбы бывае блізкі да ўраджаю на раньнім папары, а пры засьмечаных палёх і такі самы. Лубіновы папар можа замяніць столькі гною, колькі на ім нарастае зялёнае масы. Пры занятым папары мы маем яшчэ ўраджай бульбы і грэчкі, інакш кажучы, зьбіраем два ўраджаі там, дзе з папарам зьбіраем толькі адзін. Выка ў папары дае ўраджай надта добры. У гэтым (дрэнным для траў) годзе яна дала 192 п. сена.

Але бульбяны і грачычны папар можа быць толькі ў паўднёвай Беларусі. Бульбу скорасьпейку можна садзіць у папары й далей на поўнач.

Перад засевам зімовага збожжа зямля з-пад занятага папару павінна быць як найлепей падрыхтавана. Заворваньне лубіну на ўгнаеньне трэба рабіць у той-жа самы час, як і дваеньне на чыстым папары. Тэрмін высеву лубіну трэба разьлічваць так, каб яго можна было заараць зараз-жа пасьля красаваньня. Пры заворваньні лубіну абавязкова павінны прыціскацца зямлёю ўсе яго часткі, дзеля чаго карыстаюцца вальцамі, крукамі ці вяроўкай з цяжарам. Глыбіня заворваньня лубіну павінна быць каля 12 см. (3 вярш.). Пасьля заворваньня, поле трэба ўкатаць вальцам, каб папрыціскаць да зямлі незавораныя часткі лубіну.

Грэчку, пасьля таго, як яна высьпее, косяць і, калі яшчэ не пара дваіць, высушваюць на полі. Калі-ж грэчка сьпее позна, то скасіўшы яе звозяць на гумно і там дасушваюць. Поле з-пад грэчкі пружынуюць, вывозяць гной і заворваюць на 12 см. (3 вярш,).

Выку пачынаюць касіць у часе поўнага красаваньня і косяць патроху для скаціны, альбо адразу на сена. Скасіўшы выку адраву, яе звозяць і поле ўзворваюць на 8-12 см. (2-3 вярш.).

Бульбу ўбіраюць з поля не пазьней, як за тыдзень да засеву жыта.

Калі ў гаспадарцы коні добрыя, то дваіць і ўздымаць папар, заворваць грачычнае і выкавае поле найлепей плугам „Сакка" з прадплужнікам. Гэткая воранка на дасьледчым полі Турскай станцыі дала ўраджай жыта большы, чым воранка без прадплужніка.

Высеў зімовага збожжа ў паўночнай Беларусі лепш ўсяго пачынаць у пачатку другой паловы жніўня; можна рабіць высеў і пазьней, але трэба мець на ўвазе, што ўраджай жыта ад гэтага можа быць горшым.

У паўднёвай Беларусі лепей ўсяго пачынаць засеў таксама ў пачатку другой паловы жніўня і можна яго цягнуць да сярэдзіны верасьня, але і ў гэтым разе чым раней робіцца высеў, тым лепшы будзе ўраджай.

Наогул, час высеву трэба разьлічваць так, каб да зімы жыта магло раскусьціцца.

Зімовае жыта раіцца высяваць радковым сяўнікам, бо яно любіць сярэднюю глыбіню. Расьліны, якія вырасьлі з зярнят глыбока засыпаных зямлёю, палягаюць і дрэнна растуць. Насеньне-ж, якое ляжыць у глебе мелка, кепска абходзіць і не кусьціцца; пры ручным севе сеюць шмат гусьцей, а ўраджай бывае заўсёды меншы.

Гушчыня засеву залежыць ад моцы зямлі, ад часу засеву, ад спосабу высеву і ад таго, як быў скарыстаны папар.

Па чыстым раньнім папару на ўраджайнай глебе радковым сяўніком высяваюць на 1 дзес. 6 пуд., на сярэдняй—8-9 п. і на кеп-

скай—10-11 п. Сеючы рукамі, высяваюць больш пуды на 2-3. Пры позным засеве сеюць на $^1/_2$-1 пуд. гусьцей, чым пры засеве нормальным. На занятых і позных папарах сеюць гусьцей на 1-$1^1/_2$ пуд.

Сяляне часта сеюць жыта вельмі густа; ад гэтага яно нават на сярэднім полі вырастае з дробным каласом, а на ўраджайным палягае і выправае.

Калі гаспадар заўважыць у сябе дробныя каласы, то яму трэба перамяніць норму высеву і калі пасьля гэтага дробныя каласы будуць, то тут ужо вінавата дрэннае поле.

Зімовая пшаніца ў паўночнай Беларусі дае лепшыя ўраджаі, чым жыта. Яна любіць сухія месцы з добра падрыхтаванай глебай перад засевам. Сеюць яе тут у той самы час, як і жыта.

Агроном Энгельгардт.

---

# Шкоднікі поля восеньню.

Шкодных кузурак вельмі многа і няма такой культурнай расьліны, якая-б ня мела свайго ворага. У сельскай гаспадарцы кузуркі псуюць насеньне высеянае, зярно ў коласе, а часта нават і ў сьвірнах абмалочанае збожжа. Да вайны, напрыклад, сельская гаспадарка мела шкоды ад кузурак на $2^1/_2$ мільярды руб.



Матыль, вусень і кукончык зімовай соўкі.

Да шкоднікаў, якія зьністажаюць нашы зімовыя засевы ўвосень, належаць *зімовы чарвяк*, *швэцкая* і *гэсенская мухі* і інш.

*Зімовы чарвяк* выходзіць з яечак начнога матылька—зімовай соўкі. Даўжыня яго каля 1 дм., а шырыня крыльляў да 2-х дм.; пярэднія крыльлі маюць шэравата-буры колер з трыма плямкамі і чорным пасачкам навокал. Заднія крыльлі белыя з цёмнымі краямі і жылкамі.

Лёт матылькоў у нас бывае ў канцы ліпеня і ў пачатку жніўня. У гэты час яны кладуць свае яечкі на дзікія расьліны папару і меж. З яечак хутка выходзяць вусені, якія і зьяўляюцца шкоднікамі зімовых палёў. Вусені пераходзяць з меж на поле, зьядаюць у пачатку прарастаючае зярно, а потым аб'ядаюць маладыя лісьцікі, ўсходаў і карэньчыкі зімовага збожжа.

Вусень *зімовага чарвяка* мае таўшчыню гусінага пяра, колер шэры з бурымі плямкамі. Днём вусені сядзяць у зямлі, скруціўшыся ў клубок ці абгрызаюць маладыя карэньні. Ноччу яны выпаўзаюць на паверхню поля і ўжо тут робяць сваю шкодную работу. У 1880 годзе ў Вяцкай губ. зімовым чарвяком зьністожана было 80.000 дзес. жыта, у Кастрамской губ. 15.000 дзес.

У першы год пры зьяўленьні зімовага чарвяка шкода мала прыметна, але на 4-5 год ад гэтага шкодніка гіне $^1/_3$—$^2/_3$ усёй плошчы зімовых засеваў.

Зімовыя чарвякі зьядаюць маладыя ўсходы азіміны і на гэтых месцах зьяўляюцца лапіны. Гэтыя лапіны часьцей бываюць каля краю поля побач з межамі і равамі, якія зарастаюць дзікімі расьлінамі. Часта думаюць, што гэтыя лапіны бываюць ад вымаканьня і вымярзаньня. Але прычыну ня цяжка пазнаць: калі азіміна згінула ад марозаў, то яна бывае цэлай, а пры шкодзе чарвяка мы бачым поле зусім пустое ці з невялікім лікам пашкоджаных расьлін.

Барацьба са шкодаю чарвяка больш пасьпешна да яго зьяўленьня.

1) Неабходна, каб папарнае поле было чыстае; гэта дасягаецца культурным выраблевьнем папару.

2) Трэба ў час абкошваць каля азімага поля межы і равы, якія зарастаюць дзікай расьлінай.

Калі ня будзе блізка каля поля гэтай травы, то матылёк не адкладзе каля зімовага поля сваіх яечак. Засеяны папар выкай з аўсом, бульбай і інш. расьлінамі таксама не спрые пашырэньню шкоднікаў. Калі чарвяк і паложыць там свае яечкі, то яны будуць зьністожаны пры ўборцы гэтых расьлін і далейшым вырабу поля.

3) Калі-ж чарвяк ужо зьявіцца на полі, то поле трэба абкапаць канаўкай глыбінёю 12-14 см. (3-4 вярш.) і з ямкамі па дну канаўкі. Бакі канаўкі раіцца лёгка ўспульхніць, каб чарвяк ня мог выпаўсьці з канавы. У гэтым выпадку чарвякі паўзуць па дну канаўкі і пападаюць у ямкі, дзе іх лёгка зьністожыць.

Акрамя пералічаных спосабаў барацьбы з зімовым чарвяком, ёсьць яшчэ шмат і іншых: раіцца, апрыскаць паражоныя засевы парыскай зяляньню (1—1$^1/_2$ кіло парыскай зяляні і 3—5 кіло нягашанай вапны на 40 вёд. вады); зьбіраць вусеняў рукамі, раскідваць на полі атручанае цеста, прыкатваць поле вальцам і г. д.

Але перад выбарам спосабу барацьбы са шкоднікамі, лепш раней параіцца з аграномам.

*Швэцкая і гэсенская мухі.* Увосень часта можна бачыць на зімовых засевах пажаўцеўшыя і завяўшыя сярэднія лісьцікі расьлін. Прычынай гэтага зьявішча бывае маленькі белага колеру чарвячок швэцкай мухі. Муха гэта невялічкая, бліскучага чорнага колеру і яе часта прымаюць за земляную блыху. У жніўні мушкі кладуць свае яечкі на зімовым збожжы (па аднаму на кожную расьліну). З яечак выходзяць чарвячкі, якія перагрызваюць сярэдні лісьцік і праходзяць у сярэдзіну сьцябла, дзе выядаюць сэрцавіну і расьліна гіне. Па сьцяблу чарвячок апускаецца ўніз, і тут каля зямлі застаецца зімаваць. У наступным годзе чарвячок ператвараецца ў куконнчык і дае ўжо новае пакаленьне мух. Гэтыя мухі кладуць яечкі на яравыя засевы.

Прыблізна такую-ж шкоду, як і швэцкая муха, прыносіць зімовым засевам і гэсенская муха (*збожжавы камарык*). Яна вельмі падобна да камара, цёмна-шэрага ці чорнага колеру. І яна кладзе свае яечкі на зімовых засевах (часьцей усяго на пшаніцы).

Чарвячок гэтае мухі прасьвідроўвае лісьцё і сьцябло, высмоктвае сокі, ад чаго расьліна жаўцее і гіне. Чарвячкі гэсенскай мухі не забіраюцца ў сярэдзіну сьцябла, а застаюцца пад лістом. Тут ужо перш сохнуць бакавыя лісьця, а сярэдні лісьцік застаецца яшчэ доўга здаровым (Розьніца ад шкоды швэцкай мухі).

Калі азіміна ўвосень добра расьце, то шкода ад швэцкай і гэсенскай мухі часта бывае не заўважана, бо пашкоджаныя расьліны пачынаюць хутка кусьціцца і ўзамен згінуўшых сьцяблін зьяўляюцца новыя. Калі-ж расьліны з восені растуць дрэнна, то хутка на пашкоджаным полі зьяўляюцца лапіны.

З выказанага вынікае, што лепшым спосабам барацьбы з мушкамі зьяўляецца атрыманьне моцных і здаровых усходаў зімовых засеваў.

Але акрамя клопату аб узросьце здаровай расьліны, пры барацьбе з швэцкай і гэсенскай мухай раіцца глыбокая асеньняя воранка яравога поля. Даведзена, што з вусеняў, якія заворваюцца на 16 см. (4 вярш.) мухі ня выходзяць: яны гінуць, бо ня могуць выйсьці на паверхню.

Пашкоджаныя зімовыя засевы пасыпаюць салетрай, якая вясною павялічвае рост і кушчэньне расьлін і памагае аправіцца ім ад шкоды.

Акрамя швэцкай і гэсенскай мухі ў нас ёсьць яшчэ і іншыя шкоднікі зімовых засеваў. Гэта—зялёнавочка, мэраміза, вялікая пшанічная муха і інш. Спосаб барацьбы з імі такі, як і са швэцкай і гэсенскай мухамі. Наогул скажам, што калі гаспадар будзе добра глядзець за сваім полем, то пазбавіцца ад вялікае арміі няпрошаных гасьцей, якія абязцэньваюць яго цяжкую працу.

(Горкі с-г. І-т.) **А. Берзін.**

---

# Мокрая гніль бульбы.

Бульба ў сельскай гаспадарцы Беларусі часта замяняе хлеб. „Няма бульбы—няма й хлеба“—так кажуць на Случчыне. У гады неўраджаю, бульба ратуе ад голаду. Але й на бульбу часта нападае хвароба і зьніжае яе ўраджай. Яна выклікае гніцьцё бульбоўніку і самой бульбы. Хваробу гэту выклікае асобны грыбок (Phytophtora infestans); ён жыве паміж тканак лісьцяў і на самых бульбінах. Такім чынам, перш гіне лісьцё, а потым і бульба.

На полі хвароба зьяўляецца ў ліпені-жніўні м-цы на лісьцях—спачатку жоўтымі, а потым чорнымі плямамі (гл. мал.). Па краёх плямы, асабліва ў мокрую пагоду, можна заўважыць шэры пушок—гэта галінкі грыбні грыбка, якія праз ліставыя прадушынкі вышлі на паверхню ліста. На галінках (конідзіеносцах) сядзіць насеньне грыбка, якое разносіцца ветрам на здаровае лісьцё і, пападаючы ў капельку вады ці расы, праз паўгадзіны прарастае. Пасьля гэтага зараза пачынае нішчыць здаровае лісьцё. У цёплую і вільготную пагоду зараза гэта хутка пашыраецца і часта ў працягу 2-3 цёплых, туманных дзён, ад хваробы гіне бульбоўнік на цэлым полі і бульбіны спыняюць свой рост. Мала таго, зараза пападае і на самыя бульбіны і яны яшчэ ў зямлі пачынаюць гнісьці.

Сяляне ў хваробе бульбы часта вінавацяць туман („туман зьеў бульбу“). Як бачым, яна гіне ад грыбка, туман-жа толькі дапамагае пашырэньню грыбка.

Хвароба гэта разам з бульбай завезена да нас з паўднёвай Амэрыкі. Першы раз яна зьявілася ў Эўропе ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя. У 1845 годзе ў Ірляндыі (Англія) яна зьністожыла амаль ня ўсю бульбу і выклікала голад, ад якога памёрла 200.000 чалавек. Гэта хвароба і цяпер нішчыць шмат засеваў бульбы, але ўжо ня так, бо расьліны трохі зжыліся з гэтаю хваробаю, а галоўнае, з ёю можна змагацца.

Усе спосабы барацьбы з хваробаю бульбы (як і з большасьцю хвароб) папярэджваючыя. Як толькі хвароба зьявіцца на некаторых кустох бульбы, то трэба зараз-жа бульбоўнік з гэтых кустоў зрэзаць і спаліць. Калі-ж зараза пашырылася па ўсяму полю, то барацьба ўжо немагчыма, але трэба паклапаціцца, каб бульба не пагніла ў склепе і не хварэла ў наступным годзе. Дзеля гэтага перад капаньнем бульбы заражаны бульбоўнік трэба скасіць ці зжаць, сабраць і спаліць. Капаць бульбу трэба ў сухую пагоду. Здаровую бульбу прасушыць на сонцы і ссыпаць у сухі склеп. Ні ў якім выпадку ня можна ссыпаць у той-жа склеп гнілую ці напалову згніўшую бульбу, бо яна можа заразіць здаровую.

Вясной перад засевам, трэба адабраць здаровую бульбу і садзіць толькі яе. У бульбінах пачаўшых гнісьці, можа заставацца хвароба


Ліст бульбы паражаны мокрай гнільлю.


Парэз бульбы з грыбнёю мокрай гнілі.

(гл. мал.), якая потым разьнясе заразу па ўсім полі. Сеяць бульбу трэба ў ясны дзень, прасушыўшы ўперад яе на сонцы.

Ня трэба сеяць рэзанай бульбы, бо гэта спрыяе пашырэньню грыбка.

Ёсьць сарты бульбы, якія не баяцца мокрай гнілі, але ў Беларусі яны яшчэ не выяўлены. Часта такія сарты можна знайсьці і сярод заражанага поля. Прыглядаючыся, можна сустрэць кусты бульбы, ў якіх лісьцё зялёнае, а навакол пачарнеўшае ад хваробы. Здаровыя кусты трэба прымеціць і потым выкапаць. Вясной такую бульбу пасадзіць асобна і адабраць з яе толькі здаровыя кусты, ды зноў высадзіць. Так адбіраючы з году ў год здаровыя кусты бульбы, можна атрымаць бульбу, якая не баіцца хваробы.

Можна й лячыць захварэўшую бульбу. Дзеля гэтага бярэцца 1% раствор бардоскай жыжкі, якім апрыскваюцца хворыя кусты. Калі хвароба ўжо пашырылася, то трэба апрыскаць ўсё поле. Так зжываюць гэту хваробу ў Амэрыцы і дасягаюць добрых вынікаў. Але гэты спосаб дарагі й не заўсёды ім можна карыстацца.

### Рэцэпты бардоскай жыжкі.

| | № 1. | № 2. | № 3. |
|---|---|---|---|
| Вады | 10 вед. | 1 вядро | 10 літр. |
| Сіняга каменя | 3 фун. | 39 зал. | 100 грам. |
| Нягашанай вапны | 2-3 фун. | 23-29 зал. | 60-100 грам. |

(Горкі, с.-г. 1—т.). **Захар Дзянісаў.**

## Прыборка і хаваньне корняплодаў.

Да корняплодаў належаць буракі, кармовая рэпа, турнэпс, бручка, морква і інш.

Прыбіраюцца корняплоды тады, як скончыцца іх рост. Ведаць гэты час вельмі важна, бо зрабіўшы прыборку корняплодаў раней поўнай сьпеласьці, гаспадар церпіць страту. Ён губляе той прырост, які мог-бы быць, калі-б корняплоды высьпелі да канца. Нясьпелыя корняплоды дрэнна перахоўваюцца і хутка гніюць.

Прапусьціць-жа тэрмін прыборкі корняплодаў і даць ім перастаяць ня можна, бо й ад гэтага гаспадарка мае страту. У перасьпеўшых корняплодаў часта ў сярэдзіне заводзіцца дупло, з якога потым і пачынаецца гніцьцё. Іншы раз у перастаяўшых корняплодаў пачынаецца другі рост: зьяўляюцца новае маладое лісьцё. Яно ўжо жыве сокамі, сабранымі раней, і корняплоды даюць меншы ўраджай. Пры познай прыборцы могуць шкодзіць і маразы.

Пазнаецца поўная сьпеласьць корняплодаў па лістох, якія к гэтаму часу пачынаюць прылягаць да зямлі, жаўцець і ссыхаць. Гэта паказвае, што корняплоды ўжо не растуць і што надыходзіць найлепшы час для іх збору. Але, калі засеў быў зроблены позна, то тады прыборку корняплодаў робяць раней іх сьпеласьці.

Тэрмін, у які вырастаюць некаторыя корняплоды, відаць з табліцы.

| Назва корняплодаў. | Тэрмін узросту ў тыднях. |
|---|---|
| Турнэпс | 15—20 |
| Буракі | 18—22 |
| Бручка | 18—20 |
| Морква | 18—20 |
| Пастарнак | 18—22 |

Прыбіраньне корняплодаў робіцца ў добрую пагоду, бо ў вільготныя, ці дажджлівыя дні вельмі дрэнна і зьбіраць, і прасушваць іх. Прыбіраюць корняплоды або проста выцягваючы іх рукамі з зямлі, або выкопваюць іх звычайнымі лапатамі. Вельмі добра капаць

корняплоды сахаром, у якога шырокія зубы. Прыбіраюць корняплоды і машынамі. Але які-б спосаб ня ўжывалі, трэба глядзець адно, каб як-небудзь не пашкодзіць корняплодаў.



У выцягнутых з зямлі корняплодах, адрэзваюць лісьцё, але так, каб не пашкодзіць галоўкі корняплоду (гэта бывае прычынай гніцьця іх зімою). Далей ачышчаюць корняплоды ад зямлі і ад ма-еньkіх карэньчыкаў тупым краем нажа, каб не параніць паверхні. Абрэзаўшы корняплоды, зносяць і складваюць іх у невялікія кучкі, каб яны абсохлі. Пры вільготнай, ці дажджлівай пагодзе корняплоды прасушваюць пад страхою, альбо на таку. Калі прасушваюць корняплоды ў полі, то нанач іх пакрываюць бацьвіньнем. Абсохшыя корняплоды хаваюць ўжо на зіму.





Выгляд паграба.

Гаспадару вельмі цікава захаваць корняплоды сьвежымі і сакавітымі на доўгі час. Самы просты (але ня лепшы) спосаб хаваньня ў звычайных ямах. Іх можна капаць, як на полі, так і ў сялібе. Месца для ямы трэба выбіраць высокае; добра, каб яно было

на пескавой глебе і дзе не даходзіць грунтовая вада. Велічыня ямы залежыць ад ураджаю корняплодаў. Робяць ямы найчасьцей ад $^{3}/_{4}$ да $1^{1}/_{2}$ метр. глыбіні і гэтакай-жа шырыні. Пасярэдзіне ямы ўбіваюць кол, абкручаны саламяным перавяслам. Дно высьцілаюць сухой саломай таўшчынёю ў 4-5 сант. У прыгатаваную такім чынам яму, кладуць (а ня сыплюць) корняплоды. Каб корняплоды не гнілі, раіцца перасыпаць іх сухім попелам, вапнай ці звычайным сухім пяском. (На 100 кіло корняплодаў хапае 1 кіло вапны). Напоўненую яму пакрываюць саломай на 12-15 см. і прысыпаюць зямлёю на $^{1}/_{2}$—$^{3}/_{4}$ мэтр. Навокал ямы выкапваюць равок для стоку вады.




Выгляд ямы з корняплодамі.

Найлепей-жа хаваць корняплоды ў адмысловых спратах, як склеп ці пограб. У гэткіх спратах вельмі добра наглядаць за корняплодамі ў працягу восені й зімы; загніўшыя лёгка выбраць і выкінуць. Ад пограба ці склепу патрабуецца, каб ён быў сухім і захованым ад грунтовай і талай вады і з сьвежым паветрам. Цяплыня-ж зімою павінна трымацца паміж 6° і 1°C. Найлепей корняплоды захоўваюцца пры цяплыне ад 2° да 3°C. Накладваць корняплоды ў кучу трэба ня вышэй 3-4 мэтр., бо інакчай яны будуць прэць і псавацца. На мал. (стар. 11) паказаны падоўжны разрэз пограба, які сустракаецца ў Беларусі.

Гэта галоўныя веды аб хаваньні корняплодаў.

А. Савельеў.

(Горкі, с.-г. 1—т.).

---

# Капаньне бульбы і хаваньне яе зімою.

Першае капаньне маладой бульбы пачынаецца яшчэ ў час жніва. Для гэтага гаспадары каля сялібы заўсёды маюць хоць невялічкі вучастак бульбы больш раньняга сорту. Кожны дзень капачом ці лапаткаю гаспадыня ўкапвае там кошык маладой бульбы для сталаваньня*).

Гаспадыня перш выбірае лепшыя кусты бульбы, а далей займае некалькі гранак і гов́іць іх сплош.

*) Гэты час—гарачая рабочая пара; сьпіны гнуцца ніжэй і рукі разгортваюцца шырэй, а ў беднай сялянскай сям'і харч слабы.

Поўнае-ж прыбіраньне бульбы бывае ў верасьні месяцы (другая палова).

Толькі раньнія сарты, дзе поле прызначана пад засеў жыта, сяляне капаюць раней, хаця бульба мо' і ня высьпела. Але з гэтым лічыцца ня варта, бо там, дзе ёсьць блізка горад, бульба йдзе на продаж (цана на яе яшчэ высокая), а то яна йдзе і на патрэбы гаспадаркі ў першую чаргу.

Уся-ж рэшта бульбы прыбіраецца пасьля яе пасьпяваньня (калі ссохне бульбоўнік, а на бульбінах злушчыцца верхняя скурка-луска).

Добра высьпеўшая бульба лепш перахоўваецца зімою ды й ураджай бывае большы.

Гэтак, па данным дасьледчага поля Ціміразеўскай с-г. Акадэміі ў 1918 г. вага аднаго куста бульбы манялася так—

| Вага | 29.VII. | 12.VIII. | 26.VIII. | 9.IX. | 24.IX. |
|---|---|---|---|---|---|
| Бульбоўніка | 144 | 184 | 302 | 215 | 149 грам. |
| Бульбін | 34 | 138 | 316 | 334 | 447 „ |
| проц. крухмалу (у бульбе) | 10,9% | 12,9% | 18,6% | 21,4% | 21,2% |

Як бачым, найбольшая вага ўраджаю 24 верасьня. Амаль да гэтага-ж часу павялічваўся і проц. крухмалу.

Аднака, поўнага высьпяваньня бульбы часта не даводзіцца чакаць, бо дажджлівая ці халодная восень перашкаджае познай прыборцы.

Капаецца бульба па рознаму. Там, дзе сеюць мала, капаньне робіцца і капачом (сустракаецца яшчэ ў Бабруйскай акрузе). У большасьці-ж выпадкаў гранкі бульбы разорваюць сахою, плугам ці асыпнікам (апошнім даволі рэдка).

Сяляне Менскай акругі (в .в Зарэчча I і II, Качына, Масюкоўшчына) разорваньне робяць так: займаюць 15-20 гранак і разорваюць іх у роскідку. Па кожнай баразьне за плугам ідзе жанчына ці падростак і выбірае з баразны бульбіны, каб яны не прысыпаліся пры разорваньні наступнай гранкі.

На Ігуменшчыне часта разорваюць бульбу на дзьве гранкі ў роскідку, кожны раз праміна́ючы дзьве другія гранкі; іх ужо разорваюць пасьля выбіраньня першых. Гэты спосаб лепшы для выбіраньня бульбы, але поле ён застаўляе няроўным, як кажуць сяляне Меншчыны.

Разорваньне сахою лічыцца ня дрэнным. Саха не забіваецца бульбоўнікам (толькі ў шмат якіх гаспадароў яе ўжо няма). Пасьля разорваньня, бульба выбіраецца з зямлі рукамі. Адначасова з гэтым добра праводзіць і сартаваньне.

Некаторыя сяляне робяць гэта так: кожныя дзьве работніцы маюць два-тры кашы, куды і кідаецца бульба па сартам: дробныя бульбіны, або паедзеныя драцяным чарвяком кідаюць у адзін кош, а ўсе здаровыя ў другі. Калі ёсьць гнілыя бульбіны, то яны выкідваюцца вон.

Пры капаньні вельмі цікава, каб бульба добра абсохла. Гэта найлепш удаецца, калі капаньне бульбы прыпадае на сухую й ясную пагоду.

З кашоў бульба высыпаецца ў мяшкі (часта бачым гэта па Менскай і Слуцкай акругам), або адразу на воз у скрыню ці аблук (па Ігуменшчыне) *)

---

*) Аблук робіцца з ліпавай кары і падобны да скрыні.

Перавозіць бульбу ў мяшкох лепш, бо шмат лягчэй перасыпаньне яе ў месца сграту. Але калі ў скрынях і аблукох мець вaконца для высыпаньня, а скрыня з калесамі не адна, а дзьве, то ў перавозцы і капаньні ніякага затрыманьня ня бывае.

Высыпаючы бульбу ў склеп, пограб або яму, добра даваць ёй скатвацца туды па даволі шырокаму й доўгаму латаку, у якога замест дна прыладжана драцяная сетка. Пакуль бульба коціцца па латаку да горла ямы, яна абтрэсвае з сябе прыстаўшую зямлю. Сухая і чыстая (без зямлі) бульба добра перахоўваецца зімою і вясною без пары не прарастае.

Для насеньня выбіраюцца вучасткі лепшае бульбы, раней пасаджанай і добра пасьпеўшай. Калі ў гаспадарцы пасадка бывае цэлымі бульбінамі, то тут-жа пры капаньні адбіраюцца галоўным чынам сярэднія па велічыні бульбіны.

*Захоўваньне бульбы зімою* таксама вельмі цікава. Кожны гаспадар напэўна помніць ні адзін год, калі ў яго капцы ці яме, а то й у пограбе сапсавалася бульба (згніла, сапрэла ці заліласся вадой). Для добрага захаваньня бульба патрабуе цяплыні ад 1/2 да 2° С. Холад для бульбы шкодны тым, што яна робіцца салодкай з прыкрым смакам. Пры цяплыні большай 2 град. С. бульба траціць шмат вільгаці, высыхае і без пары прарастае.

Найлепш патрэбную цяплыню й сьвежасьць паветра падтрымоўваць у склепе, пограбе ці варыўні. Горш—у ямах і капцох.

Хаваньне бульбы ў скляпох найбольш пашырана ў сялян, якія маюць на сваім полі шмат каменьня. (Вёскі Зарэчча I і II, Качына, Масюкоўшчына, Патрэба С-Гарадзецкага і Заслаўскага раёнаў). Зьбіраючы каменьне, сяляне й поле ачышчаюць і здабываюць, добры матэрыял на склеп. Будуюць скляпы сяляне самі. (У вёсцы Зарэччы I толькі два гаспадары ня маюць каменных скляпоў).

Там, дзе поле суглінкавае і каменьняў сустракаецца менш, бульбу хаваюць у паграбох і варыўнях (стопках, істопках).

Як паграбы, так і варыўні перад ссыпаньнем бульбы трэба добра праветрыць, а сьцены абкурыць серкаю, каб зьністожыць усе грыбкі.

У капцох (буртох) перахоўваюцца галоўным чынам зьлішкі добрага ўраджаю і гэта бульба йдзе на корм скаціны ці продаж. Аднака, некаторыя гаспадары-практыкі і ў капцох умеюць так добра перахоўваць бульбу, што яна й вясною бывае здаровай, і годна для насеньня.

Для капца выбіраецца высакаватае месца на суглінкавым полі (яно ня так глыбока прамярзае). Адны гаспадары насыпаюць на зямлі проста кучу бульбы і далей яе закрываюць саломай і зямлёю, а другія перш выкапваюць яшчэ круглую да 3-4 мэтра глыбіні яму. Бульба насыпаецца ў яму з вярхом. Далей бульба прыкрываецца саломаю і прысыпаецца ценкім слоем зямлі ў 15-20 см. (4-5 вярш). На вярху бугра робіцца аддушына. Калі надыходзяць маразы, насьціл зямлі павялічваюць да $^1/_2$ мэтра ($^3/_4$ арш.) і закрываюць прадушыну. У гэты час у капцы цяплыню падтрымоўвае сама бульба. Навокал капца патрэбна адразу зрабіць канаўку для спуску вады.

Рана вясною а то й зімою бульбу можна даставаць з капца.

**С. Тупяневіч.**

# Як рабіць досьледы ў сялянскай гаспадарцы.

Вопыт, або досьлед зьяўляецца найлепшым спосабам высьвятленьня сельска-гаспадаркіх пытаньняў.

Каб вырашыць гэтыя пытаньні на дасьледчых станцыях, патрэбен даўжэйшы час. Апрача гэтага, дасьледчых станцый у Беларусі яшчэ мала і аб іх працы сялянства мала што ведае.

Для таго, каб дасьледчую працу паставіць бліжэй да сялянскай гаспадаркі, на сялянскіх палёх ставяць вопыты, або так званыя колектыўныя досьледы.

Колектыўныя досьледы шмат прасьцейшыя ад досьледаў станцый, але яны вырашаюць тыя пытаньні, якія можна высьветліць нават у сялянскай гаспадарцы, напрыклад, параўнаць ураджай збожжа сеянага па гнаі і па мінэральным угнаеньням, па лубіну і без усялякага ўгнаеньня; параўнаньне ўраджаяў сартоў бульбы, кармовых траў, якія найчасьцей спатыкаюцца ў нашай мясцовасьці і г. д.

Колектыўныя досьледы павінны рабіць самі сяляне, сваімі прыладамі і на сваім полі пад наглядам агронома і бліжэйшай дасьледчай станцыі, якая вывучвае тыя-ж самыя пытаньні.

Дасьледчая станцыя павінна паказваць, як пачынаць досьледы, якія для гэтага патрэбны вучасткі зямлі, што запісваць і за чым наглядаць, які павінен быць выраб зямлі, ак падлічваць ураджай і г. д.

Агроном павінен знайсьці гаспадара, які-б згадзіўся вырабляць зямлю па паказаньням дасьледчай станцыі і выбраць вучастак зямлі, якая найбольш сустракаецца ў гэтым раёне.

Добра было-б, каб у вучасковага агронома, які праводзіць усю агрономічную працу ў раёне, былі-б памоцнікі-практыканты (адзін на 2-3 раёны), якія і рабілі-б усю гэту працу, наглядаючы за правільным вырабам зямлі, засевам і зборам ураджаю, падлічвалі-б ураджай і, наогул, вялі-б усе патрэбныя запісы.

Колектыўныя досьледы можна пачаць па адной агульнай програме для ўсяе Беларусі, альбо па програмах для асобных раёнаў (напр., пытаньні зялёнага, мінэральнага і гнаёвага ўгнаеньня, кармовых траў, сартоў бульбы і г. д.).

У гэткім разе на ўсіх вучастках павінны быць зроблены досьледы па гэтым пытаньням*).

Вучастак, які вызначаны для досьледаў, павінен мець ня менш дзесяціны, якую дзеляць на 24 часткі і бяруць па 2 ці 3 такіх часткі пад адну і тую-ж спробу, разьмяркоўваючы іх так, каб частка з адной спробай (напр., бульба „Кругер“) была пасеяна два ці тры разы ў розных месцах поля.

Напрыклад, нам трэба ведаць, які ўплыў робіць угнаеньне на ўраджай зімовага жыта, або параўнаць ураджай сартоў бульбы, аўса і кармовых траў. Тады мы сеем жыта на трох дзялянках: № 1—па гнаі, № 2—па заворанаму лубіну і № 3—па няўгноенаму полю для параўнаньня. Потым нам трэба спрабаваць ураджайнасьць сартоў бульбы, напр. *кругер, вольтман, раньні ружовы* (дзялянкі №№ 4, 5, 6);

*) **Увага.** За добрыя колектыўныя досьледы агрономічныя організацыі даюць прэміі, як насеньне, мінэральныя ўгнаеньні і інш., а дзяржава звальняе ад с.-г. падатку.

потым аўсы—*бацішчаўскі*, *шацілаўскі*, для параўнаньня *мясцовы* (дзялянкі №№ 7, 8, 9); травы—выкавая мешаніна, сэрадэля, пялюшка (дзялянкі №№ 10, 11, 12).

Каб ня было выпадковасьці, трэба гэты засеў зрабіць наадварот на такіх-жа самых дзялянках, як паказана ў табліцы.

| | ЖЫТА | | | БУЛЬБА | | | АВЁС | | | ТРАВЫ | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзялянкі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| Абараняючая палоска | Па гнаі 2.400 пуд. | Па заворанаму лубіну | Па няўгноеным полі | Кругер | Вольтман | Ружовая скарасьпейка | Бацішчаўскі | Шацілаўскі | Мясцовы | Выка | Сэрадэля | Пялюшка |
| Пялюшка | Сэрадэля | Выка | Мясцовы | Шацілаўскі | Бацішчаўскі | Ружовая скарасьпейка | Вольтман | Кругер | Па няўгноеным полі | Па заворанаму лубіну | Па гнаі 2.400 пуд. | Абараняючая палоска |
| 12 | 11 | 10 | 9 | 8 | 7 | 6 | 5 | 4 | 3 | 2 | 1 | Дзялянкі |
| ТРАВЫ | | | АВЁС | | | БУЛЬБА | | | ЖЫТА | | | |

Карыстацца гэтай схэмай зможа кожны гаспадар пад наглядам агронома ці практыканта. Аб гэтым ужо сьведчаць колектыўныя досьледы, зробленыя ў іншых месцах. Вынікі такіх досьледаў маюць значэньне і для мясцовай с.-г. практыкі.

Досьледы можна зрабіць яшчэ больш простымі, скараціўшы програму пытаньняў для кожнага вучастку.

Можна ў кожнага гаспадара ставіць толькі досьлед па аднаму пытаньню. Напрыклад, у аднаго гаспадара ставіцца досьлед на зялёнае ўгнаеньне і гной, у другога—на мінэральнае, у трэцяга—сарты бульбы, у чацьвертага—сарты аўса, у пятага—кармавыя травы і г. д. Пры такіх досьледах на кожны вучастак трэба ня болей 1/4 дзес. Але колькасьць вучасткоў на раён значна павялічыцца (10—15), тады як у першым выпадку іх будзе 2-3 у раёне.

Апрача таго, добра было-б каб вывучаліся і тыя досьледы, якія раней рабілі некаторыя гаспадары. Такіх гаспадароў дасьледчыкаў ёсьць шмат, але яны часта ня ведаюць што рабіць, спатыкаючыся

з тымі ці іншымі нечаканымі вынікамі сваёй працы. Дасьледчым і агрономічным організацыям трэба такім гаспадаром дапамагчы і ўцягваць іх у дасьледчую працу.

Галоўная цэннасьць колектыўных досьледаў знаходзіцца ў тым, што сялянства бачыць добрыя вынікі ад лепшых спосабаў гаспадараваньня і пачынае рабіць тое самае ў сваіх гаспадарках.

Колектыўныя досьледы—лепшы сродак зближэньня агрономічнай навукі з сялянствам, спосаб уцягваньня найбольш культурных гаспадароў у дасьледчую працу й найлепшы спосаб пашырэньня сярод сялянства дасягненьняў агрономічнай навукі.

Колектыўныя досьледы ў БССР трэба пачаць як найхутчэй. Агрономам трэба выявіць пытаньні, якія найболей цікавяць сялянства, а гэтак-жа знаходзіць гаспадароў, з якімі можна было-б зьвязаць гэтыя пытаньні. Агрономам разам з дасьледчымі станцыямі трэба высьветліць пытаньне, як ставіць колектыўныя досьледы з тэхнічнага боку, прырыхтаваць насенны матэрыял, угнаеньне і г. д.

Сялянства павінна зацікавіцца гэтай працай; цераз агрономаў выявіць цікавыя для сябе пытаньні і трымаць сувязь з бліжэйшымі дасьледчымі станцыямі.

Толькі агульнымі сіламі дасьледчыкаў, агрономаў і найбольш культурных сялян, можна будзе хутчэй знайсьці спосабы палепшаньня сельскай гаспадаркі Беларусі.

Агроном **Б. А. Бабіцкі.**

---

**Наступны нумар часопісі „Плуг“ будзе прызначаны нашым дасягненьням у сельскай гаспадарцы.**

Т. т. сяляне, гаспадары-практыкі, агрономы і ўсе хто карыстаўся лепшымі спосабамі ўгнаеньня, вырабу поля і наогул ужываў больш культурныя спосабы вядзеньня сельскай гаспадаркі, рэдакцыя часопісі „Плуг“ просіць хутчэй надаслаць свае матэрыялы.

(398)



# САДОЎНІЦТВА

## Нашы лепшыя летнія сарты яблык і ігруш.

Пачынаючы ад жніўня, мы карыстаемся першымі пладамі, г. з. летнікамі; далей падыходзяць асеньнія і зімовыя сарты.

Трэба падкрэсьліць, што аматараў да ўсялікіх сартоў яблык і ігруш у нас шмат. Калі спаткаеце садавода з Беларусі, то першае, аб чым ён пачне з вамі гаманіць, гэта аб рознастайнасьці сартоў. Але з гандлёвага боку нас павінна цікавіць толькі 3—5 сартоў нашай мясцовасьці, больш даходных і трывалых.

Агроном-садавод Л. Калер у сваёй працы „Дасьледваньне сталых сартоў пладовых дрэў Горацкага раёну“ падкресьлівае гэта цікавае зьявішча (гл. таб.).

| Назва парод. | Пашырана сартоў у садох | У садовых школках | Раіцца спэцыялістымі | Даходзіць да рынку |
|---|---|---|---|---|
| Яблык | 94 | 80 | 57 | 9 |
| Ігруш | 32 | 30 | 23 | 5 |
| Сьліў | 4 | 5 | 12 | 2 |
| Вішань | 10 | 12 | 14 | 3 |

Як бачым, з 94 сартоў яблык да ранку даходзіць толькі 9; з 32 сартоў ігруш толькі 5 і г. д. Нашы садовыя школкі пашыралі таксама шмат сартоў згодна прапановы спэцыялістых і ўстаноў.



Ружовае.



Грушоўка рэвальская.

З летнікаў у пачатку жніўня пачынае пасьпяваць ружовая; гэта адна з трывалых яблынь Горацкога раёну. Дрэвы яе ў 30—50 год маюць вагромністыя кароны (да 10 мэтраў шырыні), што год прыносяць

плады, якія добра трымаюцца на дрэвах і да апошніх дзён жніўня. Яблыкі сярэднія, ружовыя. Смак салодка-кіславаты. Мы лічым гэты сорт больш цэнным, як белы наліў (апошні тут хварэе).

Да ранейшых яблык можна аднесьці вельмі пекныя і смачныя плады грушоўкі рэвальскай (дрэвы меншай трываласьці чым ружовае), але ўсё-ж такі з значным процантам здаровых дрэў.

Варта падкрэсьліць вельмі дэсэртны і трывалы сорт для ўсходняй Беларусі *пынамонова паласатае*, лепшае для конфіктуры (плады не разварваюцца). Яблыкі *ружовага* і *пынамонавага* можна перасылаць далёка чыгункаю.



Дуля остдзэйская.

Ігруш мы маем шмат сартоў, больш летнікаў. Лепшай ігрушай па трываласьці ў Горацкім помолёгічным садзе лічыцца вельмі раньняя *дуля остдзэйская*. Вялізныя дрэвы з моцным штамбам і рэдкай каронай родзяць што-год смачныя, сакавітыя і чыстыя дулі. За 60 год існаваньня Горацкіх установаў садоўніцтва, усе памяненыя сарты пасьпелі шырока пашырыцца па Магілеўшчыне, Віцэбшчыне і г. д. і даказалі сваю трываласьць. Парросткі іх можна выпісваць з Горацкай дасьледчай садовай станцыі.

(Горкі С-г. І-т). **М. Бурштэйн.**

---

# Аб зборы несеньня яблынь і ігруш.

За час вайны і рэволюцыі нашы пладовыя сады падупалі. Цяпер-жа вёскі патрабуюць шмат пасадачнага матэр,ялу, каб іх аднавіць, а то й павялічыць. Вось за гэтым і паўстае пытаньне, як у бліжэйшы час даць добрыя прышчэпы. Тут, напершае, патрэбна зьвярнуць увагу на дзічкі ці падвоі; яны павінны быць добрымі. Каб мець дзічкі ў значным ліку, трэба ўмеючы зьбіраць насеньне. У стары час збор насеньня не ўдавалася наладзіць. Уласьнікі садовых школак часта куплялі гэтае насеньне заграніцай. Здаралася, што насеньне было сабрана ў паўднёвых краінах. А кожнаму вядома, што паўднёвая дзічка ня можа быць трывалай у нас ці на поўначы. Ад такой памылкі часта і мы мелі дрэнныя вынікі: дрэвы рана хварэлі і гінулі. Дзічка, як аснова на якой гадуецца пладовае дрэва, павінна быць з мясцовай *дзікай яблыні, кітайкі, сібіркі, дзікай ігрушы.* Насеньне гэтых сартоў зьяўляецца найлепшым матэрыялам для атрыманьня дзічак.

На першым месцы ў нас стаіць *дзікая лясная яблыня.* Яна дае трывалыя дзічкі з добрым карэньнем. Прышчэпляныя да яе культур-

ныя сарты добра зрастаюцца і вырастаюць у вялікія і доўгавечныя дрэвы. Шукаць дзікую яблыню трэба ў лясох на палянах сярод кустоў. Сустракаецца яна і ў вёсках, але ўжо пад другой назваю—„паляўкі" „выплаўкі" і „кісьліцы". І гэтыя дрэвы таксама годны для збору з іх насеньня. Тое самае трэба сказаць і аб *дзікай лясной ігрушы*. Толькі ў лясох яна сустракаецца рэдка; у вёсках-жа і сялібах можна бачыць яе стагоднім дрэвам з невялічкімі гаркаватымі пладамі.

*Кітайка*, ці яблыня сьлівалісная. Гэта дрэва сярэдняга росту. Плады вялічынёю з вялікую вішню; на дрэве сядзяць пучкамі. Сустрэць кітайку можна ў быўшых панскіх садох, дзе садзілі яе для гатаваньня з пладоў варэньня. Дзічкі ад кітайкі маюць добрую карнявую сыстэму з значным лікам карнявых махрачыкаў. Але некаторыя садаводы і садаводы-практыкі ня раяць яе за дрэннае зрастаньне пасьля прышчэпліваньня. Яна лепш падыходзіць для засушлівых месц, як Пензенская, Курская і інш. губ.

*Сібірка*. Плады яе ня вялікія, з дробную вішню. Карнявая сыстэма багата махрачыкамі і знаходзіцца няглыбока ў зямлі; дзічка добра расьце. Але раіць яе насеньне ўсё-ж было-б памылкай, бо яна таксама дрэнна зрастаецца пры шчапеньні.

Пры зьбіраньні насеньня перш трэба намеціць тое дрэва, з якога жадаюць мець насеньне. Ураджай з гэтых дрэў трэба ўвесь закупіць. Пладам даць добра пасьпець (пакуль не пабурэе насеньне). Збор пладоў робіцца ў 2-3 разы, лёгка абтрасаючы іх. Тэрмін зьбіраньня пладоў прыпадае на канец верасьня і пачатак кастрычніка. Плады зьбіраюцаа ў кучу, дзе яны, калі трэба, яшчэ дасьпяваюць.

### Здабываньне насеньня.

*1. Гнаеньне*. Сабраныя плады ляжаць у кучы да загніваньня. Загніўшыя і мяккія плады ў моцных бочках ці ў ступах таўкуць тоўстым калом, а потым праз драцяное сіта прамываюць халоднай вадою. Часткі згніўшых пладоў размакаюць і праходзяць праз сіта; на сіце застаецца насеньне з сваімі мяшочкамі. Потым на больш рэдкім сіце, праз якое праходзяць зярняткі, аддзяляюць насеньне ад мяшочкаў. А можна аддзяляць насеньне ад лускі і перамываючы яго ў пасудзіне з вадою. Насеньне, як больш цяжкое, асядае на дно, а луска ўсплывае на верх. Чыстае насеньне сушаць у сьветлым і сухім памешканьні, стараючыся не перасушыць. Гэта не дарагі спосаб, хоць і ня вельмі добры. А дрэнны тым, што грыбныя хваробы якія бываюць на паасобных пладох, пашыраюцца на ўсю кучу. Другое, пры загніваньні пладоў можа загніць і насеньне.

*2. Выбіраньне насеньня рукамі*—спосаб больш дарагі, але верны. Больш сьпелыя плады, якія ляжаць у кучах, адбіраюць і нажом разрэзваюць удоўж. Нож трэба пусьціць у плод да насенных мяшочкаў і потым, паварачваючы яго ў бакі, плод раскалоць на часьці і выбраць насеньне. Мне такім спосабам удалося здабыць у Калінінскай акрузе многа насеньня з паляўкі. 2 пуды 10 ф. яблык-палявак далі 410 гр. (1 фун.) насеньне, на выбіраньне якога было страчана два дні.

Кошт 410 гр. (1. фун.) насеньня можна вылічыць так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 2 пуды 10 фун. яблык | па 50 кап. пуд | . . . . . . 1 руб. | 12 1/2 кап. |
| 2 рабочых дні | па 60 кап. „ | . . . . . . . 1 „ | 20 „ |
| | Усяго | 2 руб. | 32 1/2 кап. |

Гэта зусім ня дорага, бо насеньне добрае; на старане-ж просяць за яго 4-6 руб. Насеньне ігруш заўсёды абходзіцца даражэй, бо 1 фун. насеньня выходзіць толькі з 3-х пуд. пладоў. 1 фун. паляўкі ці дзікай лясной яблыны дае 16 тыс. здаровых цэлых зярнят. З іх можна мець 3000 добрых дзічак.

Такім чынам, пачатак садоўніцтва складаецца з зьбіраньня насеньня. Адсутнасьць насеньня зьвязвае рукі і ў далейшай працы. Мы заклікаем увосень бягучага году рашуча ўзяцца за зьбіраньне насеньня яблын і ігруш для патрэб садовых школак саўхозаў, сялян, дзяржаўных школак ці для прадажы.

Садовыя школкі з дзічкамі нашых дзікіх дрэў ёсьць падстава добраму садоўніцтву.

Р. Гуржы.

(Горкі, с-г. І-т)

---

## Організуйце саюзы пладаводаў.

Садоўніцтва БССР знаходзіцца на 50 проц. у руках сялян, сады якіх складаюцца з некалькіх дзесяткаў дрэў для сваёй патрэбы. Большасьць садоў—быўшыя панскія, якія знаходзяцца ў савецкіх гаспадарках, с.-г. арцелях і комунах, маюць прамысловы характар.

Сады ня даюць належнага даходу, бо збыт на рынках яшчэ не організаваны і мала пашырана пераробка продуктаў пладаводзтва.

У неўраджайны год пладоў няма, знача, няма і даходу. Ва ўраджайны-ж год хаця пладоў шмат, але цэны на іх нізкія, бо яны зьяўляюцца на рынку амаль усе разам у канцы лета і ў пачатку восені; цэны раптам падаюць і прыбытак—малы. Праданыя плады ў большасьці аплачваюць толькі дастаўку на рынак і патрачаны на гэта час. Трымаць плады да павышэньня цаны немагчыма, бо ў сялян няма патрэбнага спрату. Усё гэта выразна гаворыць, што трэба організоўваць саюз пладаводаў і абавязкова зьвярнуць увагу на пераробку садовіны ў павідла, пладовае віно або сушыць і г. д. Ураджайны год можа даць для сваёй патрэбы плады на ўсю зіму, а то і на продаж. У нас-жа часта бывае што ўжо й пад новы год у сялян нічога не застаецца ад садовіны.

Аб'яднаньне пладаводаў можа лягчэй знайсьці рынкі збыту для сваіх продуктаў; зможа трымаць вопытных і навукова-падрыхтаваных пладаводаў; можа выпускаць на рынак па нізкай цане некалькі добрых сартоў і забясьпечваць насельніцтва пладамі на працягу цэлага году.

Калі-б такія аб'яднаньні пладаводаў былі па ўсіх раёнах БССР, то маглі-б з дапамогай улады зрабіць спэцыяльныя паграбы для хаваньня пладоў у сталічных і буйных гарадох. У гэтых паграбох аб'яднаньні пладаводаў перахоўвалі-б моцныя зімовыя сарты яблык да таго часу, калі цана на іх падымецца.

З дапамогай аб'яднаньняў можна нарыхтаваць перавозку пладоў па чыгунцы ў спэцыяльных вагонах, дзе яны не псаваліся-б у часе перавозкі.

Без аб'яднаньня пладаводаў немагчыма вырашыць пытаньне аб правільнай даходнасьці садоўніцтва.

Аб'яднаньні пладаводаў можна залажыць пры дапамозе акруговых інструктароў садоўніцтва.

Агроном М. Калер.

(Горкі, С.-г. І-т).

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ.

## Гадоўля парасят.

За некалькі дзён да парасеньня сьвіньню абавязкова трэба адзяліць ад другіх і прысутнічаць пры парасеньні, бо сьвіньня можа зьесьці пасьлед, няжывых парасят, а далей і жывых. Калі-ж сьвіньня адзін раз зьела парасят, то яе ўжо цяжка адвучыць ад гэтага і такую сьвіньню лепш паставіць на адкорм. Пры парасеньні лепш адсаджваць парасят ад сьвіньні ў скрынку, на дно якой падаслаць мяккай саломы, а зьверху накрыць мяшком. Пасьля парасеньня сьвіньня адчувае вялікую патрэбу ў піцьці, зачым добра загадзя яшчэ наліць у карыта вады.



Тулуп сьвіньні кормленай адной кукурузай, а справа—кукурузай і люцэрнавым сенам.

Першыя дні пасьля парасеньня сьвіньню не патрэбна карміць сытна, бо ў яе бывае вельмі шмат малака. Лепш першыя два дні даваць высеўкі, зьмяшаўшы іх з халоднаю вадой. Далей сьвіньні трэба даваць мешаніну з высевак аўсянай і жытняй мукі. Наогул-жа, падсосную сьвіньню трэба добра карміць, бо ад гэтага залежыць колькасьць малака, а, знача, і рост парасят. Догляд за парасятамі ў першыя два-тры тыдні патрэбен вельмі пільны, бо догляд вызначае і далейшае іх разьвіцьцё.

Каб сьвіньня не давіла парасят, яе зьмяшчаюць у прасторны хлеў. З трэцяга тыдню ў сьвіньні ўжо зьмяншаецца малако і парасят патрэбна падкармліваць малаком. Перш даюць ім два разы ў дзень па 200 грам. малака кожнаму. Калі-ж

парасяты навучацца добра есьці (на чацьвертым тыдні), то ім можна даваць па 400 грам. (1 фун.) малака ў дзень. Цяпер падкорм трэба рабіць ужо разы тры ў суткі. Малако даецца абавязкова ня здыманае і не разбаўленае вадою. У гэты-ж час прывучаюць парасят да дробнай крупы з ячменю ці аўса. Даецца такіх круп па 200 гр. (1/2 фун.) у дзень на парася.

Такі падкорм цягнецца да 7-8 тыдняў; у гэты час павялічваецца колькасьць малака да 3 фун., а крупы замяняюцца мукою да 400 гр. у дзень. Корм павінен быць цёплы, але не гарачы.

Пасьля двух месяцаў, а калі парасяты дробныя, то ў 2 1/2 мес., іх адсаджваюць ад маткі зусім. Адсаджаных парасят кормяць мешанінаю з гарохавай і ячменнай ці аўсянай мукі і перагнаным малаком. Сыроваткі парасятам лепш не даваць, бо яна бедна на бялкі, якія вельмі патрэбны парасятам для росту. Кіслае малако можна даваць у 4 месяцы і то, калі яно добра скісласяся.

Парасятам трэба даваць і зялёны корм, як канюшына, крапіва, макрыца й іншая трава. Бульбу і корняплоды парасятам у маладым узросьце лепш ня даваць. З усяго корму парасятам вельмі патрэбна перагнанае малако (да 3-х мес.). Таксама добра і трэба даваць муку з гароху, бобу і выкі. У гэтых кармох шмат белкавіны і вапны. Калі-ж малака й мукі бабовых у дачу ўваходзіць мала ці зусім ня даецца, то для росту парасят трэба прыбаўляць ім крэйды (у адзін раз чайную лыжку на 4-х парасят).



Працягваньне насавога колца сьвіньні.

Калі малако й мука бабовых у корм уваходзяць, то прыбаўка крэйды нават шкодна. Мае досьледы ў Горацкім інстытуту паказалі, што прыбаўка крэйды ці фосфарна-вапеннай мукі пры корме багатым вапнай, зьмяншала прывес парасят у параўнаньні з тымі, пры якіх крэйды дадаткова не давалі.

Да 3-х месячнага ўзросту, парасятам даваць корм трэба ня менш 5 раз у дзень. Пасьля гэтага тэрміну можна карміць і тры разы ў дзень.

Карытцы, з якіх кормяцца парасяты і падсосная сьвіньня, патрэбна зараз-жа пасьля кармленьня вымыць гарачай вадою і ня менш аднаго разу ў тыдзень мыць іх вадою з вапнай і сушыць на дварэ. Наогул, трэба глядзець, каб уся пасуда, з якой кормяцца парасяты, была чыстая: інакш парасяты могуць захварэць на пранос ці іншую хваробу.

Адзін-два разы ў тыдзень трэба мыць парасят цёплай вадою з мылам.

Увесь час парасятам патрэбен сьветлы і цёплы, а ня душны хлеў, у якім паветра павінна зьмяняцца ў меру патрэбы. Стойла падсьці-

лаецца чыстай мяккай саломай. Пры добрай пагодзе парасят трэба пускаць гуляць на ўвесь дзень. На дварэ яны адчуваюць сябе здаравей.

Парасяты, якія адсаджаны ад маткі, трэба выганяць на траву пасьвіцца. Ніколі ня можна трымаць іх цэлы дзень у хлеве: тут яны вельмі нудзяцца і растуць дрэнна. Зімой таксама ім патрэбна воля.

Калі няма для парасят пашы, то іх трэба выганяць гуляць, хацяб на дворыкі і без травы, але ў корм абавязкова трэба даваць зялёную траву, выку ці сена. Каб паказаць значэньне травы ці сена для парасят, спасылаемся на адзін амэрыканскі вопыт, дзе два вапручкі карміліся аднолькава, але аднаму з іх давалі ў корм яшчэ сена люцэрны. Без люцэрны вапручок вырас куды менш, чым яго аднагнезьнік, як бачым з малюнку на стар. 22.

Пры гадоўлі парасят трэба ведаць, што гэта даволі кволая жывёла, асабліва пародзістыя, і догляд за імі павінен быць вельмі акуратны. Толькі пры добрым доглядзе і кармленьні парасяты будуць здаровымі і з іх вырастуць добрыя сьвіньні.

Дзеля складаньня норм парасятам прыводзім табліцу па Хансану.

| Сярэдняя вага парасяці ў фунтах | Патрэбна | | Сярэдняя вага парасяці ў фунтах | Патрэбна | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Бялку ў фун. | Кармовых адзінак. | | Бялку ў фун. | Кармовых адзінак |
| 24 | 0,17 | 1,8 | 171 | 0,42 | 6,5 |
| 36,6 | 0,22 | 2,3 | 195 | 0,43 | 6,9 |
| 48,8 | 0,27 | 2,9 | 220 | 0,44 | 7,3 |
| 73 | 0,33 | 3,7 | 244 | 0,47 | 7,7 |
| 97 | 0,37 | 4,6 | 268 | 0,49 | 8,1 |
| 122 | 0,39 | 5,3 | 293 | 0,50 | 8,5 |
| 146 | 0,40 | 6,1 | | | |

(Горкі, с.-г І-т). **С. Журык.**

---

# Аб сыраварэньні.

У нашых вёсках цікавяцца цяпер усе больш і больш пераробкай малака. Гаспадару вядома, што карову нясходна трымаць толькі дзеля гною, а трэба, каб ад яе было больш малака. Продаж-жа малака павінен з лішкам пакрываць страты па кармленьню і догляду скаціны. Але тут у гаспадара можа паўстаць пытаньне: ці заўсёды ў гаспадарцы добры ўдой малака будзе сьведчыць аб даходнасьці скаціны? Пэўна не заўсёды; калі рынку блізка няма, то скаціна будзе даходнай толькі пры пераробцы малака ў масла ці сыр. А гэта справа ў нас наладжана яшчэ слаба.

Шмат нашых гаспадароў прабуюць рабіць масла самі, але часьцей усяго ім гэта не ўдаецца, бо масла іх вырабу бывае кепскім і нізка цэніцца на рынку. Тыя гаспадары, якія ўмеюць прыгатаваць добрае масла ці сыр, ведаюць, што справа гэта даволі марудная і часта мала аплачваецца.

Каб усё-ж такі павялічыць даходнасьць малочнай гаспадаркі, лепш аб'яднацца ў саюз і перарабляць малако на масладзельным ці сыра-

варным заводзе. Гэтыя аб'яднаньні завуцца малачарнымі арцелямі, таварыствамі і г. д.

Перш, чым закладаць малачарнае таварыства, трэба ведаць, у ва што хоча перарабляць малако аб'яднаньне—у масла ці сыр. Сыры рабіць карысьней, чым масла. Так, напрыклад, у адной завадзкой гаспадарцы Смаленскай губ. 1 пуд. малака каштуе гаспадарцы 75 кап. Тойжа пуд малака пасьля пераробкі яго ў масла і дастаўкі ў склад за 280 вёрст каштуе 94 кап., пры пераробцы ў галяндзкі сыр—каштуе ўжо 1 руб. 27 коп., пры пераробцы-ж ў швэйцарскі сыр—каштуе 1 р. 50 к.

Выручка пасьля прадажы таксама будзе рознай і большай пры вырабу сыраў.

Паказваем гэта ў табліцы.

| На што перароблена малако | Агульная выручка з 1 пуд. малака | Чысты прыбытак з 1 пуд. малака |
|---|---|---|
| На масла . . . . | 1 руб. 15 кап. | 21 кап. |
| „ галяндзкі сыр . | 1 „ 70 „ | 33 „ |
| „ швэйцарскі „ . | 2 „ 70 „ | 1 руб. 20 „ |

Масла дае менш, чым які-небудзь сыр (швэйцарскі ці галяндзкі). Але сыраварэньне патрабуе большых затрат і вялікіх складак сяброў таварыства. Падругое, якасьць сыру больш чым масла залежыць ад якасьці малака. Гэта трэба памятаць кожнаму сябру арцелі і дастаўляць на завод толькі добрае, сьвежае малако. Але калі аб'яднаньне сялян абмяркуе ўсё гэта, то няхай яно не баіцца, што будзе ў пройгрышу.

Закладаньне малочнага таварыства пачынаецца сходам зацікаўленых сялян, дзе прысутнічае інструктар па коопэрацыі. На сходзе вырашаюцца гэткія пытаньні:

1) зацьвярджаецца статут таварыства;
2) абіраецца кіраўніцтва і рэвізыйная камісія;
3) прызначаюцца працаўнікі на заводзе;
4) рэгіструюцца сябры таварыства.

Дапамагае організацыі малачарных таварыстваў Сельсаюз, які высылае інструктароў і дае таварыству інвэнтар у крэдыт на 1-2 гады. Акрамя таго, таварыства можа атрымаць пазычку ў с.-г. крэдытным таварыстве па каштарысу, які зацьверджаны Сельсаюзам.

Пры організацыі таварыства патрэбен даволі значны капітал, што магчыма толькі пры даволі вялікім ліку пайшчыкаў-сяброў (ня менш 100 чал.).

### Што трэба ведаць тэхніку-сыравару?

Таварыству патрэбен добры сыравар. Пасьпех працы коопэрацыйнай сыраварні ў значнай меры залежыць ад здольнасьці і сьвядомасьці тэхніка-сыравара. Яго праца павінна вясьціся разам з працаю вэтэрынара і агронома. Сыравару трэба добра памятаць, што якасьць сыру залежыць ад якасьці малака (чыстаты, сьвежасьці, хімічнага складу, адсутнасьці ў малаку шкодных бактэрый і г. д.). Вядома, якасьць малака залежыць і ад чыстаты пры рабоце з ім, і ад здароўя скаціны.

Усё гэта сыравар павінен добра ведаць і глядзець за малаком, якое йдзе ў сыраварню. Праца сыравара будзе шмат лягчэй, а таварыству карысьней, калі сябры малачарнага таварыства самі будуць сьвядомы ў гэтым пытаньні. Трэба сказаць, што заграніцай (напр. у Швэйцарыі), дзе пашыраны выраб швэйцарскага сыру, на якасьць малака зварочваюць асаблівую ўвагу. Кожны сябра таварыства павінен дастаўляць у сыраварню малако чыстае і ад здаровых кароў.

Само сыраварэньне складаецца з *квашаньня*, *пераціраньня камкоў скісшага малака* (апрацоўкі кальe), *фармаваньня сыраў*, іх *пасолкі*, *бражэньня і дасьпяваньня*. Калі пры заквашваньні малака карыстаюцца закваскай ў парашку,*) то трэба добра ведаць яе моц і карыстацца па разьліку, які зроблены раней.

Пры фармаваньні трэба, каб былі:

1) належная цяплыня сырнай масы ў час пераціраньня камкоў;

2) чыстата і

3) паступовае павялічэньне цяжару пры прэсаваньні сыраў (галяндзкага і швэйцарскага).

Галяндзкі сыр трэба трымаць пад прэсам 4-5 гадз. з найбольшым цяжарам у $2^1/_2$ пуд. на галоўку 5-6 фун., швэйцарскі—1 суткі з найбольшым цяжарам 20 фун. на 1 фун. сыру.

Калі пры вырабу сыра што-небудзь не ўдаецца, то яго папраўляюць пры пасолцы. Пасолкаю можна паправіць некаторыя ранейшыя недалікі апрацоўкі сырнай масы і накіраваць у жаданы бок бражэньне сыру. Канчатковае дасьпяваньне сыру бывае ў склепе, дзе падтрымоўваецца належная вільгаць і цяплыня.

**В. Сьвірышчэўскі.**

(Горкі, с.-г. І-т.)

---

# Якое малако лічыцца дрэнным.

1. *Горкае малако*, якое па свайму выгляду можа быць і натуральным; пры гатаваньні яно не аткіпвае, але на смак горкае.

Такое малако бывае ад таго, што карова есьць шмат горкіх траў, як напрыклад, палын, гарохвая салома, розныя гарчакі, псутая макуха, рэпа і г. д. Такое малако палепшыць лёгка—трэба толькі дрэнны корм замяніць сьвежым сенам і мешанінай з мукі. Бывае, што такое горкае малако мае яшчэ і жоўтаваты колер, прычынай чаго зьяўляецца хвароба печані і некаторыя хваробы ў страўным шляху каровы.

У гэткім выпадку лепш зьвярнуцца за парадай да вэтэрынара.

2. *Чырвонае малако* бывае ад таго, што карова многа есьць моркви. Каб гэтага ня было, трэба разнастаіць корм. Але бывае, што малако мае і чырвоны колер ад розных хвароб вымя, а таксама і ў кароў, захварэўшых на крываўку. Пры хваробе вымя чырвоны колер малака бывае ад разрыву дробных кравяносных трубачак (судзінкаў) у вымі. У такіх выпадках трэба лячыць захварэўшую карову, зьвярнуўшыся за парадай да вэтэрынара.

3. *Сіняе малако.* З пачатку у малаку зьяўляюцца толькі маленькія сінія плямы, якія праз нейкі час павялічваюцца і малако прымае сіні колер. Такое малако ня можна есьці ня толькі людзём, але таксама і цялятам, бо ад яго могуць вынікаць хваробы жывата.

---

*) Закваску здабываюць з соку трыбухоў цялят.

Прычынай сіняга малака зьяўляецца асобны грыбок (цьвіль), якая бывае ў вільготных памяшканьнях (асабліва вясной ці мокрым летам), у брудных і душных хлявох. Гэтыя грыбкі з паветру пападаюць на вымя кароў, а потым пры даеньні яны ўжо пападаюць і ў малако. Каб пазбавіцца ад сіняга колеру малака, трэба зьністажаць гэтыя грыбкі, дзеля чаго трэба добра ачысьціць хлеў, абмыць сьцены і падлогу гарачым лугам, прыбавіўшы на вядро лугу шклянку-дзьве крэоліну. Вымя кароў, ад якіх бывае сіняе малако, трэба абмываць борнай кіслатой (на шклянку цёплай вады ўсыпаць чайную лыжку борнай кіслаты).

*Жоўтае малако* выклікаюць тыя-ж прычыны, што й сіняе, г. зн. грыбкі. У ім таксама спачатку зьяўляюцца толькі маленькія жоўтыя плямы, якія павялічваюцца ўсё больш і больш і малако робіцца жоўтым. Гэты колер нават не прападае, калі малако і згатаваць. Жоўтае малако шкодна для ўжытку, як і сіняе. Паправіць яго можна тым-жа спосабам.

*Сьлізіста-цягучае малако* бывае ад пападаньня ў выдаенае малако заквашваючых (брадзільных) грыбкоў. Грыбкі гэтыя бываюць у гнілым і цьвілым корме. Такое малако без ніякага смаку, дрэнна скісае, трудна зьбіваецца ў масла і калі пастаіць дзень-два, то становіцца густым і цягучым. У лепшым выпадку яно цягнецца, як ніткі і падобна да сьлізі. Паправіць такое малако лёгка. Ня трэба даваць каровам гнілога корму, а ў хлеве зрабіць ачыстку і дэзынфэкцыю.

Прычыны кепскага малака бываюць яшчэ і ад бруднай пасуды, у якую дояць малако, ад бруднага вымя і саскоў каровы (часьцей у душных хлявох). Ад усіх гэтых прычын малако бывае тухлае, хутка скісае, а пры гатаваньні адкіпае.

Каб заўсёды мець добрае малако, трэба пасуду, у якую выдойваюць малако і ў якой яно трымаецца, мыць вадою з содай (кожны раз на поўвядра вады бяруць 100 гр. соды).

Перад даеньнем саскі і вымя ў кароў павінны быць добра абмыты вадой, лепш з борнай кіслатою (чайная лыжка борнай кіслаты на 1 бут. вады). Хлеў і памяшканьне для даеньня кароў павінны трымацца чыстымі і са сьвежым паветрам.

Вэтэрынар **Агапітаў**.

---

# ВЭТЭРЫНАРЫЯ.

## Насацізна ў коняй.

Шмат хто чуў пра насацізну у коняй, а мо' нават і бачыў хворага на насацізну каня.

Насацізна—гэта адна з самых небясьпечных заразьлівых і незьлячымых хвароб. Ёю хварэюць ня толькі, так зв., аднакапытавыя (коні, аслы, мулы), але ёю лёгка можа заразіцца і чалавек. Рагатая жывёла, сьвіньні і сабакі насацізнаю не хварэюць.

Насацізна выклікаецца дробненькім, кароценькім і цененькім *мікробам*.

Зараза гэта знаходзіцца ўва ўсіх частках цела захварэўшае жывёлы. Асабліва-ж небясьпечны—сьліз з носу і гной скурных верадоў. Найчасьцей заражаюцца коні праз сьліз з носу хворага насацізнаю

каня, якая трапіць часамі здароваму каню ў ранку на скуры альбо на сьлізніцу. Асабліва шмат мажлівасьці заразіцца ад хворага каня, калі коні разам ядуць з аднаго жолаба альбо пьюць з аднаго вядра, ці нават з агульнага вадапою. Таксама на пашы хворы конь сьлізьзю з носу можа забрудзіць траву ці вадапой і тады зараза спачатку пападзе ў жывот каню, а потым крывёю разнясецца па ўсяму целу і трапіць у лёгкія, з якіх звычайна і пачынаецца насацізна ў каня.



Мікроб насацізны павялічаны ў 1000 раз.

*Першыя адзнакі* насацізны ў каня могуць зьявіцца праз некалькі тыдняў альбо нават і праз некалькі месяцаў пасьля заражэньня. Звычайна, хвароба пачынаецца малапрыметна і цягнецца гадамі, пакуль ня выбьецца на паверхню. У залежнасьці ад таго, на якіх часьцінах цела больш аказваецца хвароба, насацізну называюць: *лёгачная*, *насавая*, *скурная*.

Калі хвароба захоплівае спачатку лёгкія, то доўгі час ніякіх прыметных адзнак у хворага каня ня бывае, хоць у лёгкіх і маюцца ўжо некаторыя зьмены,—так зв. „гузачкі". У такім стане хворы конь можа жыць нават некалькі год. Спачатку ён пачынае толькі глуха кашляць, з носу ў яго калі-ні-калі акажацца цячэньне сьлізі, але ў самым носе ніякіх зьмен пакуль што можа й ня быць. Далей заўважваецца ў такога каня дыхавіца, асабліва пры рухах у працы; такі конь скора томіцца і пацее. З часам конь пачынае худаць, ня гледзячы на тое, што ён добра есьць; шэрсьць на ім траціць свой глянец і, нарэшце, з носу (часьцей з аднае наздры) пачынае цячы бесьперастанку сьлізь, а пад ніжняю сківаіцаю залозы крыху прыпухаюць, робяцца цьвёрдымі, і „як гарэх", асабліва з таго боку, з якога выцякае з наздры сьлізь.



Павялічаныя залозы пад сківаіцаю ў коня пры насацізне; залозы-цьвёрдыя, як „гарэх", нярухомыя і небалючыя.

Калі заглянуць гэткаму каню праз храпкі ў нос (робячы гэта разумеецца асьцярожна), то на сьлізніцы насавой пераборкі можна ўгледзіць балячкі і рубцы ад зажыўшых старых балячак.

З часам гэткі конь, ня гледзячы на добры корм, страшэнна худае і, не папраўляючыся, здыхае. Цягнецца гэтак насацізна досыць доўга, як гавораць, хранічна, і толькі часамі ўся хвароба працякае ў некалькі дзён, тады ўсе адзнакі насацізны рэзка выяўляюцца: па целе могуць пайсьці вопухі—ног, суставаў, машонкі, альбо галавы; і конь

праз 6—12 дзён памірае ад слабасьці, але матэрыя з носу і тут павінна зьвярнуць на сябе ўвагу гаспадара.

У некаторых выпадках на целе, пад скураю, у каня зьяўляюцца



Балячкі і рубцы на насавой пераборцы ў каня пры насацізне.

гузы і шнуры. Гузы гэтыя часамі прарываюць і на іх месцы робяцца балячкі, якія доўга не загойваюцца. Гэта так званая—*скурная насацізна.*

Адным словам, насацізну трэба падазраваць у каня і *зараз-жа зьвярнуцца да вэтэрынара.*



Скурная насацізна ў каня. Па скуры каня відаць гузакі, шнуры і балячкі.

1) Калі пад сківіцаю зьявіцца вопух залозаў—цьвёрды, небалючы і як-бы прыстаўшы да скуры гуз.

2) Калі з аднэй наздры, а часамі і з абедзьвюх цячэ густая сьліз з гноем, зялёнаватая і з крывянымі жылкамі.

3) Калі на целе ў каня зьявяцца шнуры, альбо гузы вялічынёю з гарэх, цьвёрдыя, нябалючыя, якія прарываюць і потым на месцы якіх застаюцца балячкі.

*Чалавек заражаецца насацізнаю выключна ад хворага каня*, асабліва калі гэткі конь фыркне ў твар, або гной з носу ці з балячкі каня трапіць чалавеку ў вока, у рот, ці на нездаровую скуру. Часьцей заражаюцца насацізнаю тыя, каму даводзіцца бліжэй стаяць да коняй: фурманы, канюхі, гаспадары, рамізьнікі, людзі, якія даглядаюць хворых насацізнаю коняй, вэтэрынары і інш.

Насацізна ў чалавека таксама праходзіць цяжка, і таксама канчаецца сьмерцю. Па скуры пойдуць гузы, якія нарываюць, лопаюцца і з якіх выцякае матэрыя. Потым хвароба пераходзіць на лёгкія, на нос, як мы гэта бачым у каня, і чалавек праз 3—4 тыдні памірае.

*Лячэньне насацізны ня прыносіць ніякае карысьці*, і таму захварэўшага каня трэба, як найскарэй зьнiстожыць. Дзеля гэтага яго адразу трэба аддзяліць ад іншых коняй, і трымаючы асобна, зараз-жа паведаміць вэтэрынара. *Конь, які будзе прызнаны вэтэрынарам хворым насацізнаю, павінен быць па закону зараз-жа забіты і закопаны са скураю ў зямлю.* А каб гаспадар не цярпеў вялікае страты ад гэтага, *дзяржава выплачвае гаспадару грашыма вартасьць каня*, каб ён за гэтыя грошы мог набыць сабе новага, здаровага каня.

Толькі той гаспадар, які позна зьвернецца з хворым канём да вэтэрынара або зусім ня зьвярнецца да яго, можа страціць права на атрыманьне грошай, калі яго хворага каня знойдуць і зьнiстожаць.

Ів. Серада.



# ПЧАЛЯРСТВА

## Гнілец і яго лячэньне.

Самай страшнай і найбольш пашыранай хваробай пчол зьяўляецца гнілец. Выклікаецца гнілец, як і халера, тыфус, шкарлятына і інш. хваробы ў чалавека, мікробам—гнільцовай палачкай.

Захварэўшая гнільцом сям'я ня можа папаўняць свае сілы маладымі пчоламі, бо пчаліная чарва зьністажаецца гэтай хваробай. Хворая сям'я ўжо дрэнна бароніцца ад пчол-зладзеяк, сіла яе хутка слабее і яна гіне.

Адрозьніваюць гнілец *эўропэйскі і амэрыканскі*. Пры эўропэйскім гнільцы захварэўшая дзетка (закрытая і адкрытая) хутка загнівае і прымае выгляд чорнае масы. Гэта маса апускаецца на дно сот, пахне плесьняю, але ня цягнецца. Амэрыканскі гнілец паражае таксама адкрытую і закрытую чарву, але захварэўшыя чарвячкі не апускаюцца на дно сот, а прыліпаюць да іх бакоў, маюць буры колер і пах дрэннага сталярскага клею; маса цягучая. Як той, так і другі гнілец вельмі шкодны для пчол.

*Адзнакі хваробы.* Пачатак хваробы можа пазнаць сьвядомы пчаляр і толькі ў разборным рамовым вульлі. У калодах-жа хвароба пазнаецца пасьля таго, калі яна добра пашырыцца. Гнілец зьяўляецца, галоўным чынам, хваробаю пчалінай дзеткі. Здаровыя чарвячкі бываюць жырныя, белага колеру, скура на іх ня зморшчана. Хворыя-ж у сотах выцягваюцца, скура на іх моршчыцца і жаўцее.


Гнілец на сотах з дзеткаю

Калі гнільцом захварэлі дарослыя чарвячкі, то пчолы могуць іх і закрыць. Вядома, што пчол з такіх чарвячкоў ня будзе. Вечкі сотаў над такімі чарвячкамі часта ўвальваюцца і робяцца як-бы прарваныя. (гл. мал.). У здаровай сям'і маладыя пчолы з чарвячкоў выходзяць дружна, у хворых-жа гэтага ня бачым.

*Прычыны пашырэньня гнільца.* Заражаюцца гнільцом здаровыя сем'і праз пчол-зладзеяк, якія абкрадаюць хворую сям'ю; пчол-работніц, якія пабывалі на тых кветках, дзе ўжо былі хворыя пчолы; праз мёд і воск, які даюць пчолам з хворых вульляў; карыстаньне вульлямі ад хворых пчол і г. д.

*Лячэньне.* Калі гнілец у калодзе прымечаны ў пачатку яго шкоднай работы і сям'я моцная, то зараз-жа трэба пачаць лячыць яе. Перш трэба спыніць вывад чарвы. Калі можна, то матку трэба злавіць і пасадзіць у клетку да выхаду ўсёй дзеткі. Сям'ю ў працягу ўсяго гэтага часу трэба абкурваць штодзень формалінам і карміць сытой, да якой прыліваюць на шклянку 10—12 капляў формаліну. На дно калоды час-ад-часу кладуць анучку, якая змочваецца вадой з формалінам.

Калі ў хворай сям'і вывядзецца ўся дзетка, тады пчолы пераганяюцца ў чыстую калоду і лепш на гатовую чыстую суш. Старую матку

знiстажаюць i замяняюць новай i плоднай, вывядзенай у здаровай сям'i. Пчол i ў чыстым вульлi вечарамi праз дзень абкурваюць параю формалiну (на працягу 10—12 дзён). Калi матку злавiць не ўдалося, а сям'я даволi дужая, то пчол пераганяюць у новы вулей i лечаць так, як сказана раней (старую матку зьнiстажаюць). Пры гэтым хворую сям'ю да пасадкi ў новы вулей трэба патрымаць у раёўнi 48 гадзiн, пакуль пчолы не скарыстаюць мёд, узяты iмi з хворага вульля. У гэты час пчол небходна падкармiць сытой з формалiнам.

Калi хворая сям'я зусiм аслабела, то ня варта займацца лячэньнем, а лепш закурыць яе серкай i спалiць; воск-жа i мёд добра прагатаваць. Вулей, калi ён ня гнiлы i бяз шчылiн, можна абеззаразiць.

Лячэньне гнiльца ў рамовым вульлi значна лягчэй, чым у калодзе дзеля таго, што ў рамовым вульлi можна разгледзiць кожную рамку i лёгка знайцi матку. У рамовым вульлi матка таксама запiраецца на 12 дзён, каб вывялася ўся дзетка. Пасьля гэтага сям'ю пераводзяць у новы чысты вулей i лечаць так, як апiсана раней.

Калi гнiлец значна пашырыўся на пасецы, то хворыя сем'i злучаюць. Гэта робiцца дзеля таго, каб пчолы злучаных сем'яў не разляталiся i не разносiлi заразу па суседнiх вульлёх; iх абкурваюць анучай, намочанай у вадзе з салетрай. Аднака, абкурваць трэба асьцярожна i калi сям'я ўжо цiха шумiць, больш ня дымяць. Абкураныя такiм чынам пчолы ня помняць свайго старога вульля, i не разлятаюцца. Злучаныя сем'i можна лячыць.

Калi гнiлец у рамовым вульлi захоплены ў пачатку хваробы, то лячэньне ўдаецца i без спыненьня вываду дзеткi i перагону сям'i ў новы вулей. Для гэтага хворыя чарвячкi (адкрытыя i закрытыя) залiваюцца 40 проц. растворам формалiну з шкляной капельнiцы (яе можна купiць у аптэцы). Да канца капельнiцы прыстройваюць кусок iголкi, каб пры рабоце можна было разрываць хворых чарвячкоў.

У пачатку хваробы досыць раз залiць паражоныя соты, каб сям'я выздаравела. Але работу гэту трэба так рабiць, каб не прапусьцiць нi воднага хворага чарвячка.

**Як захаваць пчол ад гнiльца.**

1. Пры вясеньнiм аглядзе пчол трэба добра ачысьцiць вульлi ад цьвiлi.

2. Пасьля выстаўкi пчол на пасеку, iх трэба падкармiць сытою з 10—12 каплямi 20 проц. раствору формалiна на 1 шклянку.

3. Нiчога не купляць з хворага пчальнiка для сваёй пасекi.

4. Нiколi не кармiць пчол мёдам з невядомай пасекi.

5. На тых пасеках, дзе пчолам даюць ваду, трэба даваць з ёю па 20 капель формалiну на шклянку.

6. Пры зьяўленьнi гнiльца на сваёй пасецы паведамiць аб гэтым суседзяў-пчаляроў.

7. Пры рабоце на пасецы, дзе ёсьць хворыя гнiльцом сем'i, трэба мець двайныя прылады цi пры пераходзе ад хворага вульля да здаровага прамываць iх сулямой (1:1000) цi 5 проц. формалiну.

Вульлi ад хворых сем'яў трэба добра ачысьцiць i прамыць моцным лугам; пасьля прасушкi пафарбаваць iх з надворнага боку i абкурыць параю формалiну. Столь-жа, падушку i рамкi з хворых вульлёў лепш спалiць, а месца, дзе стаялi пчолы, перакапаць.

**Iв. Фэдарака.**

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Ураджай 1925 году.

Па лічбам Ц. С. У. ўраджай Беларусі ў гэтым годзе перавысіў леташні на 7,5 проц. Гэтым самым значна павялічваецца тая частка збожжа, якая будзе вывезена сялянствам на рынак для прадажы. Гэту частку збожжа завуць таварнай. Па першаму падліку таварнасьць нашага збожжа ў гэтым годзе вызначаецца такімі лічбамі: жыта—5,0 мільёнаў пуд., яравога збожжа—4,5 міл. пуд., льнянога семя—1 міл. пуд. Разам—10,5 міл. пуд.

Па ўсяму-ж Савецкаму Саюзу таварнасьць збожжа дасягае звыш 1 мільярда пуд.

Савецкая ўлада надае вялікае значэньне таму, як пойдзе ў гэтым годзе прадажа збожжавых зьлішкаў сялянствам. Дзяржава прымае ўсе меры к таму, каб закупка ў сялян гэтых зьлішкаў прайшла больш арганізавана.

Намесьнік Старшыні Саўнаркому СССР т. Цюрупа пра нашу закупку гэтых зьлішкаў сялянскага збожжа сказаў, што гэта самае чулае месца ў нашай збожжа-загатоўчай компаніі, да якой мы ў сучасны момант рыхтуемся.

Ураджай гэтага году зьяўляецца той галоўнай сілай, якая дапаможа нам хутчэй паставіць на ногі і нашу сельскую гаспадарку, і нашу прамысловасьць. Для таго, каб на закупцы збожжа не нажыўся прыватны гандляр і каб сялянства магло атрымаць ад прадажы свайго збожжа поўную карысьць, яно павінна ведаць усе крокі Савецкай улады ў справе арганізацыі збожжа-загатоўчай компаніі.

За ўраджай гэтага году сялянства павінна паправіць сваю гаспадарку, зрабіўшы шэраг новых палепшаньняў. Каб бяднейшаму сялянству дапамагчы асабіста, яму праз крэдытовую каоперацыю пад залог збожжа будуць выдавацца грашовыя пазычкі, каб селянін мог прадаваць збожжа тады, калі яму гэта будзе больш сходна.

У агульных рысах збожжа-загатоўчая компанія ў нас на Беларусі будзе праведзена так—

Наважана загатаваць 10,5 міл. пуд. збожжа такім парадкам: 8,3 міл. пуд. будзе закуплена плянавымі арганізацыямі на спэцыяльныя сродкі дзяржавы, якія зьяўляюцца на рынку асноўнымі плянавымі загатоўцамі;

700 тыс. пуд. на свае сродкі і для сваіх патрэб купяць коопэратывы; 1,5 міл. пуд. закупіць жыхарства гарадоў на самадастаўку, а частка з гэтага, магчыма, будзе куплена і прыватнымі гандлярамі.

Плянавымі загатоўцамі зьяўляюцца: Збожжапродукт на тры міл. пуд., Цэнтрасаюз—700 тыс. пуд., Дзяржаўны гандаль Беларусі—1 міл. пуд., Беларускі трэст харчовай прамысловасьці—600 тыс. пуд., Белкоопсаюз—2,1 міл. пуд., Белсельсаюз—900 тыс. пуд.

Акрамя таго, коопэрацыя будзе закупляць збожжа і для другіх організацый, бяручы ад іх на гэта задаткі.

Да першага студзеня 1926 г. павінна быць загатавана 6 міл. пуд.

Прыблізна закупкі размяркуюцца па акругам так: у Слуцкай—16 проц., Бабруйскай—16 проц., Магілёўскай—15 проц., Аршанскай—13 проц., Менскай—13 проц., Віцебскай—14 проц., Калінінскай—9 проц., Мазырскай—3 проц. і Полацкай—1 проц.

Якія-ж задачы ў збожжа-загатоўчай компаніі?

Дзяржава ня будзе дапускаць значнага паніжэньня цэн на збожжа, павялічваючы сваю закупку.

Дзяржавай прымаюцца ўсе меры к таму, каб на закупку збожжа загатоўцы мелі ў свой час грошы і каб на рынку было найбольш патрэбных сельскай гаспадарцы тавараў.

Коопэрацыя і дзяржаўныя загатоўцы не павінны дапускаць конкурэнцыі паміж сабою. Каб сялянства сваё збожжа везла на дзяржаўныя і коопэрацыйныя ссыпныя пункты, там павінны працаваць такія работнікі, якія ўмеюць добра абыходзіцца з сялянствам.

Коопэрацыя ў сябе павінна організаваць і выдаваць бяднейшаму сялянству пазычкі пад залог збожжа.

Коопэрацыя нарыхтоўвае й коопэрацыйны збыт з тым, каб увесь прыбытак ад прадажы збожжа быў зьвернуты таму, чыё збожжа.

Згодна пастановы Саўнаркому Беларусі ад 20 ліпня г. г. збожжа-загатоўцы будуць праводзіць сыстэму надбавак у плаце за лепшую вартасьць і якасьць збожжа. Гэта павінен ведаць селянін у сваіх-жа інтарэсах.

**І. Маркаў.**

---

# Мэліорацыя й сялянства*).

Кастрычнікавая рэволюцыя ўзварушыла і нашага селяніна-беларуса. Ён зразумеў кірунак рабоча-сялянскай улады, хутка ўзрос культурна сам і пачаў цікавіцца культурай сельскай гаспадаркі, павялічваючы яе даход. Гэтыя культурныя жаданьні найлепш адбіліся ў аднэй з галін сельскай гаспадаркі—мэліорацыі. У некаторых акругах сяляне пачалі абсушваць вялікія абшары балота. з якога ўжо і цяпер маюць шмат карысьці („Магілеўская акруга“). Па БССР організавана ўсяго 407 мэліорацыйных таварыстваў. Большая частка з іх на быўшых панскіх землях, а меншая—на сялянскіх. З лічбы таварыстваў відаць, што сялянства хоча палепшваць свае гаспадаркі праз мэліорацыю. Але бяда ў тым, што ў працы гэтых таварыстваў ёсьць недахопы. У некаторых акругах (Мазырскай і інш.) на паперы лічыцца 30 таварыстваў, а працуюць толькі два-тры.

Чаму-ж гэта так? Нам здаецца таму, што ўсе гэтыя таварыствы, з аднаго боку неправільна організаваны, а з другога—іх ніхто не абслугоўвае. Нашы спэцыялістыя не зварочваюць на іх ніякае ўвагі. Трэба сказаць, што і нашы зямельныя ўстановы, як цэнтральныя, так і мясцовыя гэтак-жа мала цікавяцца мэліорацыйнымі таварыствамі і ўся праца іх была ў рэгістраваньні толькі т-ваў. А другое, шмат таварыстваў організавалася на быўшых панскіх землях не для таго, каб палепшваць іх якасьць, а толькі каб набыць болей зямлі.

---

*) Друкуецца ў парадку абгавораньня. Рэд.

Трэба, каб у далейшым такіх недарэчнасьцяй ня было, а зрабіць гэта можна.

Першае, треба перарэгістраваць усе мэліорацыйныя таварыствы і тыя, што толькі лічацца на паперы, скасаваць. Тады таварыстваў застанецца менш, але яны будуць лепшымі, больш здольнымі і дзейнымі, а сяляне гледзючы на іх будуць ахвотней організоўваць свае мэліорацыйныя таварыствы.

Другое, агрономам, якія працуюць у гэтай галіне сельскай гаспадаркі, трэба зьвярнуць больш увагі на організацыю мэліорацыйных таварystваў і на тое, каб іх абслугоўвалі спэцыялістыя; у хуткім часе мэліорацыйныя работы будуць спаўняцца за кошт дзяржавы, а дзеля таго трэба пашырыць працу і сялянскай мэліорацыі.

Трэцяе, галоўнаму мэліорацыйнаму органу трэба абвясьціць у друку конкурс на лепшае мэліорацыйнае таварыства.

Усе гэтыя мерапрыемствы могуць палепшыць сялянскую гаспадарку і пашырыць мэліорацыю сіламі самых сялян. І. Ц.

---

# Апал торфам.

Шмат у каго захавалася думка, што наша краіна мае невычарпальныя лясныя багацьці. Тым часам такі пагляд зьяўляецца памылкай. За час вайны і розных окупацый нашы лясы ў значнай меры высякаліся. У гэтыя часы высякаўся лес у большай меры, чым ён нарастаў. Толькі па прыблізнаму падліку ў час вайны і рэволюцыі мы высеклі лесу на 50 год наперад.

Такім чынам, цяпер патрэбы насельніцтва ў лясных матэрыялах не адпавядаюць ляснаму прыросту. Ня гледзячы на тое, што на мясцовыя патрэбы прызначаецца каля 30 проц. усяе лесасекі, гэта знача каля 6162 дзес. у год, усё-ж такі адчуваецца вялікі недахват у лясных матэр'ялах. Гэты недахват выліваецца ў самавольныя парубкі, якія дасягнулі страшэннае лічбы. Так, напрыклад, у 1911 годзе страта ад самавольных парубак па б. Менскай губ. складала на дзес. 2,23 кап., а у 1922-23 г. яна складае ужо 21,7 кап. (амаль у 10 раз больш).

Асаблівая-ж патрэба ў нас на дровы. На адны мясцовыя патрэбы іх ідзе каля 54.000 куб. саж.

Здаволіць гэта поўнасьцю Лясное Кіраўніцтва ня можа. Нам неабходна знайці другія крыніцы апалу, больш танныя і ня шкодныя для нашай лясной гаспадаркі.

Такім танным матэр'ялам зьяўляецца торф, якога ў межах Беларусі ёсьць аграмадныя запасы.

У даваенны час здабыча торфу на Беларусі была даволі пашырана ў панскіх маёнтках; торф ішоў тады галоўным чынам на ўгнаеньне. Капалі яго адмысловыя грабары з старавераў.

Трэба сказаць, што здабыча і апрацоўка торфу ня вельмі хітрая справа і навучыцца ёй можна хутка. Пры дапамозе адмысловых інструктароў ці грабароў, можна за кароткі час навучыцца здабываць і падрыхтоўваць торф для апалу.

Капаючы торф, сялянства будзе мець танны апал, бо за дрывамі часам прыходзіцца ехаць за 10—15 вёрст у той час, калі пад бокам знаходзяцца запасы добрага торфу.

Торф можа даць добры апал. Ён захавае сялянству працу, час і сродкі на куплю дроў, а лясы ад пагрозы самавольных парубак.

**К. Іосялевіч.**

---

# Парады агронома.

ПЫТАНЬНЕ 14. Кожны год у мяне прападае шмат сена ад дажджоў, якія шкодзяць пры ўборцы атавы. Парадзьце, што рабіць, каб мець меншыя страты.
**Язэп Вішнеўскі.**

АДКАЗ. У гэтым выпадку можна зрабіць *бурае сена.* Дзеля гэтага траву праз 5-6 гадзін пасьля скосу зграбаем у невялікія кучы, якія на другі дзень растрасаем, падсушваем і к ночы зноў складваем у кучы крыху большыя. Робім так 3-4 разы, каб у расьлінах засталося магчыма менш вільгаці. *) Далей ў сухую пагоду, як абсохне раса, звозім у стог напалову прасохшую траву, падаслаўшы яго добра саломай. Стог можа быць круглы (5 6 мэтраў) альбо прадаўгаваты (шырынёю 3 мэтры). Траву ў стозе трэба добра ўтаптваць пластамі па 30—40 см. (7—10 вярш.) таўшчынёю. Пачынаюць таптаць ад сярэдзіны да краю, каб як найменш засталося паветра ў сярэдзіне стога. Стог робяць вышынёю 4-5 мэтр. і пакрываюць тоўстым пластам саломы (таўшчынёю каля 1 мэтра), якую ўмацоўваем перакінутым цераз верх некалькі раз дротам; да канцоў дроту прывязваюцца каменьні ці калодкі. (Дрот можна замяніць і віткамі з лазьняку). Ужо пасьля 3-х дзён трава ў стозе значна саграецца; чым лепш утоптаны стог, тым менш ён саграецца і пры правільнай рабоце цяплыня падымаецца да 80° Ц. Пры такой (ня большай) цяплыні трава траціць ня больш 20—25 проц. крухмалу. Гэткая цяплыня трымаецца каля тыдня, а далей пачне зьніжацца і праз 6—10 тыдняў сена зусім астывае.

Цяпер сена можна адразаць касою ці асобным нажом і даваць у корм жывёле. Такое сена мае колер буры, смак саладкавата-кіслы і пах падобны да табакі.

ПЫТАНЬНЕ 15. Маю каля 2-х дзес. саду з яблынямі й ігрушамі, ёсьць таксама і сьлівы. Летам многаападу, які, як тавар, ня мае каштоўнасьці. Як найлепш яго скарыстаць, каб ня мець страты, а карысьць.
**Н. Пакроўскі.**

АДКАЗ. З паду і наогул пладоў горшых сартоў, пабітых пры здыманьні ці абарваных ветрам, з плямамі і г. д. можна рабіць *павідла.* Яго можна рабіць асобна з кожнага сорту, але лепш, калі мы для павідла з яблык дададзім напалову ігруш. Перад гэтым яблыкі й ігрушы трэба пашаткаваць, як капусту, альбо стаўчы на кашу ў чыста вымытай ступе. Парэзаныя ці перацёртыя яблыкі й ігрушы ўсыпаюць у пабяляны жалезны кацёл і гатуюць на слабым агні, увесь час мяшаючы іх. (Можна падліваць крыху вады). Калі ў катле зробіцца мяккая маса, праціраем яе праз сетку з белага дроту і ставім на 14-15 гадзін у халодны склеп. На другі дзень зноў кладзём гушчу ў кацёл, які перад гэтым трэба добра вышмараваць маслам і, мяшаючы ўвесь час, зноў варым на слабым агні, пакуль гэтая маса загусьцее і будзе цягнуцца за лыжкаю. Пасьля гэтага наліваем павідла ў звычайныя паліваныя гаршкі і ставім у печ для хлеба, каб на іх зрабілася скарынка. Можна павідла пасыпаць і нятоўстым слоем цукру, або пасьля напаўненьня гарачым павідлам гаршкоў да самага верху, закрыць іх пакрышкамі і

---

*) Доўга сушыць ня трэба, бо высахшыя расьліны трудна ўтоптваць, а ад гэтага трава ў стозе можа залішняе сагрэцца і нават загарэцца. З гэтай прычыны такое сена заўсёды складаюць на адшыбе ад будынку.

ўсе шчыліны замазаць жытнім цестам і паставіць у печ пакуль цеста запячэцца. Такое павідла можа доўгі час перахоўвацца ў склепе.

Павідла са сьліў робяць таксама, толькі дадаюць 1/4 кіло цукру на кіло (2½ фун.) сьліў. Павідла з дасьпеўшых сьліў гатуецца бяз цукру.

ПЫТАНЬНЕ 16. У нас на вёсцы аруць поле ў вузкія загоны, а тут-жа ў саўхозе Цытва аруць у шырокія склады. Растлумачце, як лепш араць. Поле ў нас сугліністае з невялікім спадам.

**Кастусь Адзерыха.**

АДКАЗ. Тыя, што трымаюцца ворыва ў загоны на вашай зямлі, робяць памылку, хаця араць у загоны лягчэй. Араць у загоны трэба толькі на вельмі сырым, нізкім і бяз спаду для вады полі, а ва ўсіх іншых выпадках лепш араць у шырокія загоны (ў склады). Ворыва ў вузкія загоны мае многа дрэнных адзнак.

1. Пры ворыве ў загоны гаспадар траціць многа поля на барозны; у барознах зьбіраецца вада, а ў нізкіх месцах нават застойваюцца лужыны; збожжа тут вымакне. Пры загонах у 10 баразён пад барознамі прападае пятая частка поля.

2. Паверхня ральлі бывае ня роўная: на сярэдзіне вышейшая, а к барознам ніжэйшая.

3. На загонах збожжа расьце і дасьпявае няроўна, у барознах многа падседу і пустых каласоў.

4. У барознах угнаеньне прападае без карысьці.

5. Праца машынамі, як сяўнікі, касілкі і жаткі, немагчыма ці, у лепшым выпадку, вельмі цяжка.

Вось колькі дрэнных старон мае ворыва ў загоны; пры ворыве ў склады (шырокія загоны) гэтага ня будзе. Ворыва ў склады робіцца таксама, як і ў загоны, толькі трэба старацца не рабіць па сярэдзіне ўзгоркаў, а злучыўшы 4-5 загонаў, араць іх у адзін склад; тады барозны будуць цераз 35—40 крокаў адна ад другой. Найлепш усю паласу араць у адзін склад, а пасьля ў нізкіх месцах, дзе можа застойвацца вада, парабіць прагоны і барозны. **У. Даведчык.**

---

## Памяці Ў. В. Даведчыка.

11-га жніўня г. г. зусім нечакана памёр супрацоўнік часопісі „Плуг“, *Уладыслаў Вікенцьевіч Даведчык.*

Як агроном, тав. Даведчык пачаў працаваць з 1909 г. Нейкі час ён працаваў асыстэнтам на дасьледчым полі ў Варшаўскай губ.

У 1918-19 г. быў інструктарам па арганізацыі комун і арцеляй у Казанскай губ., а далей у 1919-21 г. ён кіруе групаю саўхозаў у Татарскай рэспубліцы.

З 1921 г. тав. Даведчык працуе на Беларусі.

У апошні час тав. Даведчык быў сакратаром Навукова-тэхнічнай сэкцыі і сакратаром Аграномічнай сэкцыі саюзу Працзямлесу.

Тав. Даведчык зьяўляўся вельмі здольным аграномам, прымаўшым самы дзейны ўдзел у аграномічнай дапамозе нашай вёсцы. Тав. Даведчык выступаў на старонках амаль усіх газэт і часопісяй, якія друкуюцца ў Менску. У „Плугу“ ён зьмяшчаў „Парады агранома“.

Няхай жыве добры ўспамін аб Табе ў чытачоў „Плуга“, наш дарагі супрацоўнік! **Рэдакцыя.**

# ЗЕМЛЕУСТРОЙСТВО

## Разделы крестьянских хозяйств.

*(Продолжение).*

При недостижении соглашения между делящимися, свой спор они передают на разрешение районной земельной комиссии.

Подсудность иска о разделе двора определяется первоначальными исковыми требованиями. Если иск пред'явлен одновременно о разделе земли и остального имущества, дело разрешается земельными комиссиями; при чем подсудность эта не изменяется, если во время производства дела иск о земле отпадет, или будет отклонен земельной комиссией.

Раздел земельных угодий двора по суду, как и в добровольном порядке, возможен только при условии образования на них нового жизненного хозяйства.

Вопрос о том, какое хозяйство можно признать жизненным, решался до сих пор в к каждом отдельном случае Райисполкомом при регистрации добровольных раздельных записей и земельною комиссией при рассмотрении исков о судебных разделах дворов. Практика давала пеструю картину, но в большинстве случаев для средней семьи, состоящей из 4-6 душ, отводилось около 5 десятин.

В настоящее время с установлением норм трудового землепользования вопрос этот разрешается точно. Минимальным экономически оправдывающим себя хозяйством признается такое, которое в зависимости от района имеет не менее 4,6-6,35 десятин удобной земли. Следовательно, не подлежит разделу хозяйство, из которого нельзя образовать хотя бы двух с минимальной земельной нормой. Этим устанавливается, что не подлежит дроблению ни в добровольном, ни в судебном порядке двор, имеющий удобной земли менее 9,6-13,7 десятин в зависимости от района.

Выходящие из состава недробимого двора его члены могут требовать раздела в натуре остального, кроме земли, общего имущества только в том случае, если они образуют новое сельское хозяйство на земле, получаемой ими от земельных органов.

В остальных случаях, напр., при переходе к другим занятиям, они могут, если пожелают выйти из состава данного двора, требовать выплаты с него деньгами или продуктами. Размер этих выплат определяется или на основании соглашения сторон, или в спорных случаях решением земельной комиссии, но он не может быть выше трети стоимости всего имущества общего пользования, кроме земли. Последняя принадлежит государству и предоставляется бесплатно тем членам двора, которые остаются на ней для ведения сельского хозяйства. Выплаты эти по просьбе ответчиков могут быть рассрочены до 5 лет.

Если же члены двора поступают на ту или иную службу, уходят на трудовые заработки, учатся или лечатся на стороне и при том не

требуют с двора выплат, они продолжают числиться в его составе и пользуются всеми связанными с этим правами,—в случае военной и выборной службы, сколько бы не длилось их отсутствие, а в остальных случаях в течение двухсевооборотного срока.

Те же члены двора, которые, не пропуская означенного срока, возвращались домой для участия в работах хозяйства, или поддерживали его материально, посылая деньги, тоже все время продолжают числиться в составе двора.

Имущественные и земельные доли делящихся членов двора определяются по числу трудовых единиц. В то же время согласно ст. 65 Зем. Код. право на имущество общего пользования принадлежит всем членам двора в полном составе, а значит без определения каких-либо долей в общем имуществе. Отсюда видно, что трудовые единицы являются лишь примерным основанием для раздела имущества двора.

При разделе этом необходимо вычислить, сколько трудовых единиц имеют выходящие и остающиеся члены двора, и по числу их производится раздел хозяйства, но с обязательным соблюдением основных условий раздела (образование в результате его жизненных сельских хозяйств). Поэтому, если на долю одной из делящихся частей двора не пришлось бы минимальной нормы земли, а по величине хозяйства из него можно образовать два или несколько вполне жизненных дворов, земля должна быть разделена не строго арифметически по числу трудовых единиц, а так, чтобы часть двора с наименьшим количеством трудовых единиц получила бы минимальную норму земли и соответственную часть остального имущества.

Противоречил бы ст. 72 и 73 Зем. Кодекса отказ в разделе двора его членам только потому, что на долю выделяющихся не приходится по трудовым единицам минимальной нормы, в то время как по земельному обеспечению двора вполне возможно образование двух жизненных хозяйств.

С 1 мая текущего года постановлением Совнаркома приостановлены впредь до особого распоряжения добровольные разделы и предоставлено районным земельным комиссиям право допускать в исключительных случаях разделы хозяйств, не подлежащих обрезке.

Что же касается, как добровольных, так и судебных разделов дворов, ходатайства о производстве которых были возбуждены до этого срока пред Райисполкомами и земельными комиссиями, то они должны разрешаться на прежнем основании.

Все фактически произведенные разделы хозяйств после распубликования постановления Совнаркома о приостановке их признаются не имеющими законной силы. Разделившиеся дворы признаются едиными, как при обрезке крупных хозяйств и землеустройстве, так и при взыскании налогов и отбывании повинностей, падающих на хозяйство. Наконец, в отношении фиктивных разделов хозяйств на сельские советы возложена обязанность возбуждения исков и ходатайств о признании их недействительными.

Фиктивными признаются разделы, которые оформлены путем регистрации добровольной раздельной записи в Райисполкоме, или путем решения земельной комиссии, но в действительности не были произведены и оформление это лишь имело целью оградить хозяйство от обрезки.

В этих случаях сельский совет обязан возбудить в районной земельной комиссии иск об уничтожени зарегистрированной раздельной записи, или ходатайствовать в инстанционном порядке о пересмотре вступившего в законную силу решения земельной комиссии.

Итак, сложный вопрос, разрешение которого поставлено на очередь в РСФСР, о недробимости крестьянских хозяйств весьма просто и безболезненно разрешен Земельным Кодексом БССР и распоряжениями, изданными в его развитие. **Е. Вишневский.**

# ВОПРОСЫ и ОТВЕТЫ

## (по делам земельным).

Вопрос. **(М. С. Шафрановский. М-ко Лукомль, Борисовского окр.).**

Каковы права служителей культа на землепользование?

Ответ 14.

На основании циркуляра ЦИК БССР от 16 января 1925 года, распубликованного в № 7 Собр. Узак., находящаяся в пользовании служителей религиозного культа земля сохраняется за ними в том случае, если она была предоставлена им постановлением земельной комиссии и если обрабатывается ими лично. В остальных случаях она подлежит отобранию при наличии в данной местности нуждающихся в земле граждан.

Вопрос.

Кому подсудны споры, вытекающие из-за неисполнения договоров гражданами на аренду земельных участков из состава государственных земельных имуществ, переданных в распоряжение Районных Исполнительных Комитетов? (Оршанск Окруж. Земкомиссия).

Ответ № 15.

Иски о расторжении договоров, заключенных земельными органами на отдачу в аренду государственных земельных имуществ и о разрешении связанных с означенными договорами споров подсудны окружной земельной комиссии на точном основании пункта а ст. 200 Земельного Кодекса, так как стороною в деле при этих исках является правительственное учреждение, заявляющее свои самостоятельные права на землю.

Вопрос.

Для вынесения того или иного решения на общем собрании членов земельного общества, из кого должно быть большинство голосов: из числа ли одних домохозяев или вместе с присутствующими полноправными членами общества? (Полоцкая Окруж. Земкомиссия).

Ответ 16.

Полноправный член общества на сходе пользуется таким же правом голоса, как и домохозяин. Поэтому приговор схода является законным, если он постановлен простым большинством всех присутствовавших на сходе лиц, имеющих право голоса.

Вопрос.

Нужно ли согласие домохозяина и остальных полноправных членов двора на увеличение его состава вследствие брака?

Ответ 17. (Витебская Окруж. Земкомиссия).

Увеличение состава двора вследствие брака принадлежит к случаям естественного изменения состава двора (рождение, брак, смерть). Для этих случаев изменения состава двора ничьего разрешения не требуется.

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Аб зьбіраньні насеньня лясных дрэў.

У жыцьці беларускай вёскі лес мае вялікае значэньне. Карыстаньне лесам падзяляецца на галоўнае і пабочнае. Галоўнае карыстаньне дае драўніну, якая йдзе на дровы, будову і на розныя гаспадарчыя патрэбы. З драўніны гоняць дзёгаць і шкіпідар. З яе-ж робяць паперу, кардон і іншыя фабрычна-завадзкія вырабы. Распрацоўка лесу і перавозка лясных матэр'ялаў даюць заробкі сялянам. Асабліва-ж важна тое, што галоўная праца ў лесе спаўняецца зімою, калі сяляне больш свабодны ад працы ў сваёй гаспадарцы і калі ім больш усяго патрэбны заробкі.

Пабочныя лясныя карыстаньні даюць сялянам даход, галоўным чынам летам. Сюды належаць зьбіраньне ягад, грыбоў, падрыхтаваньне лыка, зьбіраньне моху, дзе можна выпас скаціны, паляваньне.

Ёсьць і яшчэ адно паважнае пабочнае карыстаньне, на якое дасюль мала зьвярталі ўвагі, але якое ў шмат якіх мясцох і пры ўменьні можа даць добры прыбытак. Гэта—*зьбіраньне насеньня дрэў і кустоў*. Якоя насеньне дрэў і кустоў у даным месцы зьбіраць і каму яго прадаваць, можна даведацца ад ляснічага, ляснога інспэктара, агронома, інструктара садаводзтва і г. д.

Дзеля таго, каб праца па зьбіраньню насеньня не прападала дарэмна і каб насеньне было добрай якасьці, трэба ведаць—1) калі з якога дрэва можна зьбіраць насеньне; 2) як яго зьбіраць, ачышчаць і сушыць і 3) як яго захоўваць да прадажы ці да засеву ў сябе.

Зьбіраць насеньне з кожнага дрэва ці куста трэба толькі тады, калі на ім плады і насеньне ўжо зусім сьпелыя, калі чарвівыя плады і заморкі ўжо ападуць. Спосаб зьбіраньня насеньня розных дрэў розны. Жалуды дуба і насеньне конскага каштану можна зьбіраць з зямлі, лёгка страсаючы галіны; шышкі сасны і елкі лепш абрываць з паваленых дрэў зімою на лесасецы; насеньне клёну, ліпы, ясеню можна зьбіваць з галін дручкамі ці абіраць рукамі; у бярозы—лепш усяго рабіць венікі з галінак і сушыць гэтыя венікі на цягу ў хлеве ці на гары, потым абмалачваць іх палкамі або церці ў мяшку і далей аддзяляць насеньне ад дубцоў і вялікіх лісьцяў. Невялічкія часткі лісьцікаў можна і нават карысна пакідаць у насеньні, бо ў гэтым выпадку лепш захоўваецца ўсходжасьць бярозавага насеньня. Плады крушыны, чаромхі, кратэгуса абрываюць з дрэў і складаюць у кучу ці якую небудзь гліняную пасудзіну, каб яны крыху загнілі́ся, а потым костачкі адмываюць валой. Костачкі трэба прасушыць на паветры. Таксама можна зьбіраць насеньне дзікай яблыні і грушы. Насеньне і плады такіх дрэў, як клён, ясень, ліпа, бэз і г. д. пасьля збору трэба таксама добра прасушыць пад страхой, бо ад вільгаці яны могуць заплесьняць. На печы ніякае насеньне сушыць ня можна, бо яно страціць усходжасьць. Пасьля прасушкі насеньне захоўваць у месцы з сухім і

сьвежым паветрам у мяшкох, або ў якой небудзь пасудзіне. Тут не павінна быць вельмі горача, а зімою холадна. Каб захаваць насеньне ад мышэй і другіх шкоднікаў і даць доступ свежага паветра, лепш мяшкі з насеньнем падвешваць да жэрдак на цёплай гары ці паўцёплых будовах.

Сьпее насеньне розных дрэў у розны час. Некаторае вясною (асіны, таполі, вярбы); вельмі мала ў пачатку лета (вяз); некаторыя сярод лета (бяроза, жоўтая акацыя); большасьць у канцы лета ці ўвосень (клён, граб, дуб, каштан конскі, піхта і г. д.); некаторыя зімою (сасна, елка, ельніца). Дасьледчая лясная станцыя пры Горацкім с.-г. інстытуту ў працягу ўжо 3-х год вядзе назіраньне над высьпеваньнем пладоў лясных дрэў і кустоў. Гэтыя назіраньні дазваляюць акрэсьліць прыблізныя тэрміны збору насеньня галоўных лясных дрэў і кустоў у Беларусі.

### I. Іглістыя дрэвы.

1. Сасна звычайна з 1 лістападу да 15 красавіка.
2. Елка звычайна „ „ „ „ „
3. Піхта з 10 да 20 кастрычніка.
4. Ельніца з 1 лістападу да 15 красавіка.
5. Туя заходняя з 1 да 25 кастрычніка.

### II. Лістовыя дрэвы.

6. Вярба з 5 да 25 ліпеня.
7. Белая акацыя з 15 верасьня да 1 лістападу.
8. Вяз з 8 да 15 чэрвеня.
9. Ільм „ „ „ „
10. Ірга з 10 ліпеня да 1 жніўня.
11. Дуб з 15 верасьня да 10 кастрычніка.
12. Каштан конскі ў канцы верасьня і ў пачатку кастрычніка.
13. Клён-явар і клён палявы з канца верасьня да канца кастрычніка.
14. Клён востралісты „ „ „ „ „
15. Клён татарскі з канца верасьня да канца лістапада.
16. Клён амэрыканскі з канца верасьня да паловы зімы.
17. Ліпа з 15 лістапада да канца лютага месяца.
18. Алешына чорная з 1 лістапада да 1 сакавіка.
19. „ белая з 20 кастрычніка да 1 сакавіка.
20. Рабіна з канца верасьня да 1 сьнежня.
21. Шоўкавіца ў канцы ліпеня і ў пачатку жніўня.
22. Ясень з 10 кастрычніка да паловы сьнежня.

### III. Лістовыя кусты.

23. Жоўтая акацыя з 1 да 20 жніўня.
24. Барбарыс з 10 верасьня да 10 кастрычніка.
25. Берасклет у канцы жніўня і ў верасьні.
26. Бiручына з 10 да 25 верасьня.
27. Баярышнік (кратэгуз) з 15 верасьня да 16 лістапада.

28. Бузіна чырвоная з 25 ліпеня да 20 жніўня.
29. Войчая лыка з 5 да 15 ліпеня.
30. Бружмель з 20 ліпеня да 20 жніўня.
31. Каліна з паловы верасьня да паловы лістапада.
32. Жасьмін з 10 да 30 верасьня.
33. Крушына з пачатку і да паловы верасьня.
34. Крушына ломкая з пачатку жніўня да паловы верасьня.
35. Сьвідзіна з 1 да 25 верасьня.
36. Бэз у кастрычніку.

Тут ёсьць некалькі дрэў і кустоў, якіх у нашых лясох няма, але іх лёгка знайсьці ў старых сялібах, напр., саўхозах. Насеньне такіх дэкорацыйных дрэў і кустоў з ахвотай купляюць установы, якія маюць дрэўныя школкі.

Ня ўсе дрэвы кожны год даюць ураджай насеньня. Напрыклад, у мінулым і па-за мінулым годзе ў нас елка нідзе не дала ўраджаю. У бягучым годзе чакаюць вялікага ўраджаю елкі і добрага ўраджаю насеньня сасны. Сялянам, якія жывуць каля лясоў, карысна гэта ведаць, бо шмат лясьніцтваў Беларусі будуць купляць зімою насеньне гэтых дрэў у значнай колькасьці. Ва ўраджайныя гады насеньня елкі зьбіраюць столькі, каб мець запас на 3 гады.

Проф. **С. П. Мельнік.**

(Горкі, с.-г. І-т).

# КРАЯЗНАЎСТВА

## Культурная гаспадарка Язэпа Шкадарэвіча.

(*Мяст. Капыль, Слуцкае акругі*).

Гаспадарка Язэпа Шкадарэвіча па плошчы зямлі належыць да бядняцкіх гаспадарак, а па сваёй культурнасьці заслугоўвае вялікай увагі. Язэп Шкадарэвіч, яшчэ будучы маладым хлапцом, сынам беззямельнага ткача, быў прымушаны шукаць заработкаў у панскіх маёнтках, бо ткацкай работы было мала і яна вельмі кепска аплачвала працу. Там, дзе яму даводзілася служыць, некаторыя буйныя землеўласьнікі вялі свае гаспадаркі досыць культурна, да чаго пільна прыглядаўся Шкадарэвіч. Ажаніўшыся, Шкадарэвіч увесь час займаецца ткацтвам, але не пакідае думкі аб набыцьці зямлі, і ў 1911 г. ён набыў сабе каля двух дзес., на якіх організаваў сваю гаспадарку.

Зямля Шкадарэвіча залягае на гарыстай мясцовасьці, мае схілы і нарэшце пераходзіць у нізінны луг пры рэчцы. Па якасьці зямля падзяляецца на пясок, супясь і суглінак (ападзолены). Купіўшы гэту зямлю, Шкадарэвіч пачаў на ёй гаспадарыць ня зусім добра, бо ня было ніякай мажлівасьці дазнацца, як весьці гаспадарку культурна. Праўда, Шкадарэвіч ведаў, што ў маёнтках пасьля бульбы часьцей сеюць ячмень з падсевам канюшыны. Канюшына-ж давала па два ўкосы на працягу двух год, а на канюшынішчы ўжо сеялася жыта (часта па гною) і затым авёс. Так рабіў прыблізна й Шкадарэвіч. У некаторых выпадках ён адступаў ад гэтага севазвароту ў залежнасьці ад патрэбы ў той ці іншай культуры.

У часе вайны Шкадарэвіч разьбіў усю сваю зямлю на 7 асобных зьмен па 500 кв. сажн. прыблізна кожная, думаючы завесьці правільны севазварот, але гэта яму не ўдаецца па двум прычынам: 1) ён ня мог ні ад кога дазнацца, як трэба правільна вясьці шматпольную сыстэму і 2) патрэба ў некаторых культурах прымушала засяваць па дзьве зьмены аднэй і той-жа расьлінай.

У 1920 г. Шкадарэвіч даведаўся з газэт і гутарак з агрономам аб формах шматпольля і на сваіх сямі палёх павёў такое чаргаваньне расьлін.

| Зьмены / Зямля | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пясок | | Заняты папар бульбай па гнаі. | Жыта з падсевам сэрадэлі; грэчка | Ячмень па гнаі з падсевам канюшыны | Канюшына 1 год | Канюшына 2 год | Бульба па гнаі | Авёс |
| Суглінкі | Супясь | Заняты папар-бульбай ці турнэпсам па гнаі | Жыта, пшаніца з падсевам сэрадэлі | Ячмень, яр пшаніца па гнаі (канюшына) | Канюшына 1 год | Канюшына 2 год | Бульба ці турнэпс па гнаі | Авёс |

Зараз-жа мушу агаварыцца наконт новых двух культур—турнэпса і сэрадэлі. Пра іх Шкадарэвіч вычытаў у газ. „Беларуская Вёска" і летась (у 1924 г.) завёў турнэпс, а ў гэтым годзе і сэрадэлю пасеяў так, як раілася ў часоп. „Плуг". Сэрадэля расьце добра, відаць будзе і добры ўкос. Як кажа сам Шкадарэвіч, патрэба ў грачанай крупе прымушае яго сеяць пасьля занятога папару грэчку—зразумела нямнога (адну чвэрць азімае зьмены). У яравой зьмене (на суглінку) перавага аддаецца яравой пшаніцы, тут яна дае добрыя ўраджаі.

Вось што паказвае табліца ўраджаю леташняга году ў пераліку на дзесяціну. *)

| Жыта пуд. | Яравая пшаніца пуд. | Ячмень пуд. | Авёс пуд. | Бульба пуд. | Турнэпс пуд. | Канюшына 2 укосы пуд. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 130 | 144 | 160 | 192 | 2800 | 4000 | 750 |

З гэтага відаць, якія дасягненьні мае ў сваёй гэспадарцы незаможны селянін Шкадарэвіч і наколькі заслугоўваюць павагі яго дасягненьні.

Тут я прывяду па памяці Шкадарэвіча ўраджай пяці культур на гарыстым пескавым полі ў пудох на дзесяціну.

| Жыта | Пшаніца | Ячмень | Авёс | Бульба |
|---|---|---|---|---|
| 115 | 90 | 70 | 100 | 1800 |

Як бачым з табліцы севазвароту, Шкадарэвіч часта кладзе гной і ня сее лубіну, але гэта тлумачыцца тым, што для яго маленькай гаспадаркі хапае гною ад двух жывёлін, якія ён трымае, і няма патрэбы сеяць лубін. Пры тым, у Шкадарэвіча ёсьць яшчэ гарод і сад, дзе заложаны кампостныя кучы, з якіх гной—кампост вывозіцца на поле. Ні машын, ні прылад добрых у Шкадарэвіча няма, а гаспадарка вядзецца самымі звычайнымі сялянскімі прыладамі. Гэта гаспадарка ў поўнай меры можа быць названа культурнай, хаця яна нязвычайна маленькая. Але цяпер Шкадарэвіч хадайнічае аб прырэзцы яму зямлі, „каб можна было паказаць, як трэба рабіць."

Сад у Шкадарэвіча гэтак-жа мае культурны выгляд, хоць і невялічкі. У садзе ёсьць такія дрэвы: ігрушы—слуцкія бэры, дзюшэс, цукроўкі, вінёўкі і яблыні-антонаўкі і папяроўкі. У гародзе сеецца бульба, буракі, морква, капуста, цыбуля і інш.

Будынак Шкадарэвіча звычайны сялянскі і складаецца з хаты, гумна, хлева, пограба і сьвірна.

У вольны час і галоўным чынам зімою, Шкадарэвіч займаецца ткацтвам. Як ткач, ён гэтак-жа заслугоўвае пашаны. Яшчэ ў 1903 г. за свае ткацкія вырабы атрымаў на выстаўцы пахвальны ліст, а ў 1923 г. на ўсесаюзнай выстаўцы атрымаў прэмію. У 1924 г. на раённай выстаўцы ў Капылі гэтак-жа атрымаў прэмію. У гэтым годзе Шкадарэвіч гатуе да „Дню Ураджаю" экспонаты дасягненьняў у сваёй гаспадарцы, якія будуць паказаны на раённай выстаўцы ў Капылі.

Селянін Шкадарэвіч карыстаецца гэтакай літаратурай: газ. „Беларуская Вёска" і часоп. „Плуг"; лічыцца сябрам с.-г. і спажывецкага таварыстваў.

**А. Дзямідовіч.**

*) Гаспадар вядзе запіс ураджаю.

# Што робіць у сваёй гаспадарцы селянін Пятрок Трапашка.

*(Лысая Гара, Сьмілавіцкага раёну).*

„Лысая Гара“ вядома шмат дзе па Сьмілавіцкаму раёну. Кожны селянін ведае, якая гэта была пусташ пры маёнтку Марцыбылішкі. Але ў 1922 г. на гэтых пяскох і падзолах пасяліўся селянін Пятрок Прапашка, вельмі працавіты гаспадар. З сялян, яго суседзяў, мала хто чакаў, што ён будзе такім добрым гаспадаром у полі, якім калісь быў пастушком у вёсцы. Ніякія ўмовы жыцьця не паслабілі яго ўпартасьці і здольнасьці ў працы. З малымі сродкамі і без гаспадарскіх прылад пачаў ён гаспадарыць на Лысай Гары, атрымаўшы там зямлю ў ліку 4,62 дзес. пахаці, 2 дзес. сенажаці і 1,72 дзес. хмызьняку.

На цеснату зямельную ня скардзіцца Пятрок. „Браткі мае, апрацуем добра хаця гэту зямлю, ды з нас хопіць працы, дый бяз хлеба ня будзем“—кажа ён малазямельным сялянам.

І праўда, шмат цікавых вынікаў можна пабачыць у гаспадарцы Пятрака. „Паглядзіце,—кажа ён“, як толькі вышлі мы на поле:—што робіць адна пружыноўка. Вось гэты кавалак аўса пасеяны пасьля звычайнага сялянскага вырабу поля; добра, калі тут будзе 36—40 пуд. аўса на дзесяціну. А вось гэты авёс (паказвае ён у другі бок) дасьць 60, а мо‘ і 70 пуд. Што-ж тут я зрабіў? Першае, трошкі раней узараў ўвосень; ральля вышла глыбістай, то я параўняў яе бараною. Вясною-ж, як прасохла зямля, я пусьціў пружыноўку. У звычайны час ўзьмяшаў і пасеяў авёс. Ну, а вынікі бачыце самі. У мяне цяпер пружыноўка ўсё. Альбо лён. Да гэтага году ён у мяне не ўдаваўся. Жонка казала кінуць яго сеяць. Але зімою я прачытаў кніжачку Мадэстава пра лён і вясною зрабіў усё, як там было напісана. На праўду вырас лён; сэрца радуецца. А працы было ня так і шмат. Галоўнае. усё зроблена ў свой час.

Рана з восені на аржоньне я вывез гной і заараў. Шчакаўшы, ральлю параўняў бараною. Вясною, як толькі прасохла, прадраў пружыноўкай. У пачатку траўня узьмяшаў. Поле вышла надта добрым. Пасеяўшы лён, барану пускаў толькі ў тры сьляды, а звычайна мае суседзі бaрануюць лён сьлядоў у дзесяць. Ад гэтага зямля робіцца прыпадлівай. На такой зямлі лён расьце дрэнна й часта зусім прападае.

У мяне пружыноўка працуе і пры вырабу канюшынішча. Тут, скасіўшы канюшыну, я пускаю пружыноўку. Пры ўзорваньні пасьля гэтага зямля перасыпаецца, як пух. Пры такім вырабу канюшынішча тут кожны год удаецца добрае жыта. Пры вырабу поля пад бульбу, пшаніцу ці ячмень усюды на першым месцы ў мяне пружыноўка. Звычайная-ж барана ня так ужо патрэбна і карысна ў гаспадарцы! Але й для яе ў мяне ёсьць праца у свой час.

Паглядзіце вось на гэты ржэўнік. На адной частцы, бачыце, ён добры, буйны, а на другой шмат слабейшы. На першай нажаў 15 коп. па разьліку на дзесяціну, а на другой 10. І гэта затым, што на першым вясною, як толькі прасохла, я прабаранаваў жыта звычайнай бараною ў два сьляды. Зямля і ўгнаеньне, як там, так і тут зусім аднолькавыя (суглінак-падзол). Выходзіць, што вясеньняе баранаваньне жыта, азімай пшаніцы і канюшыны вельмі карысна. У гэтым я праканаўся.

Вось турнэпс у гэтым годзе вышаў дрэнным. Запазьніўся пасеяць і зьела мошка. Трэба будзе сеяць яго раней. Аб гэтым і Жыван піша

ў сваёй кніжцы. Кармовыя буракі далі лепшыя вынікі. Засэў турнэпсу і кармовых буракоў я кожны год буду павялічваць. (Калі маеш у хлеве скаціну, трэба ў полі сеяць гэту расьліну).

На ўраджай мае ўплыў і чаргаваньне расьлін, так званы *севазварот*. Я трымаюся ў сябе пяціпольля: 1) *жыта*, 2) *авёс*, 3) *бульба*, 4) *ячмень* і *яравая пшаніца* з падсевам канюшыны і 5) *канюшына*. Гною кладу палову пад жыта і палову пад бульбу. Пад жыта-ж сею і мінэральныя ўгнаеньні—фосфарытную муку і тамасшлак. Вось толькі было цяжка даставаць іх у мінулыя гады".

Шмат чаго цікавага можна яшчэ ўбачыць у гэтай новай гаспадарцы. Напрыклад, узяць хмызьняк. Была лаза, крушына, а між імі бярозкі ды асінкі. Пралезьці скаціне, так і чалавеку там нельга было. А цяпер замест кустоў—чысьценькі бярозавы лясок: ні лазы, ні крушыны ня стала. Старанным гаспадаром усё высечана, выкарчавана і прыбрана. З сенажацьцю яшчэ нічога не зрабіў. „Вельмі шмат работы",—кажа ён: „аднаму усюды не пасьпець. Хацеў тут паміж пасялкоўцамі малачарнае таварыства залажыць і купіць добрага быка, але не ўдалося. Будзем спадзявацца, што ў наступным годзе гэта зробім".

— А часопісь „Плуг" вы чытаеце?—пытаю нарэшце. „А як-жа, кожны нумар перачытваю. Шмат чаго карыснага і цікавага ёсьць. Нажаль, толькі не пісалі яшчэ, як пабудаваць цэмэнта-бэтонны калодзезь або склеп. Вельмі хацеў-бы гэту рэч зрабіць".

С. Т—н.

---

# Дзьве вёскі.

*(Зарэчча* I *і Качына, Менскай акругі.)*

Абедзьве вёскі знаходзяцца ў 12-13 кілёмэтрах ад г. Менску. Адна Зарэчча I займае левы бераг рэчкі Сьвіслачы, а другая Качына—правы.

Здавалася-б вялікай розьніцы паміж імі не павінна быць, а выходзіць іншае.

Левы бераг Сьвіслачы—пескавыя бугры з пералескамі. Усё поле зарачан няроўнае, бугрыстае й сплашныя пяскі. Месцамі гэтыя пяскі так выразны, што калі кінуць і нічога з імі не рабіць, каб скарыстаць пад засеў, то яны становяцца дзікімі і зарастаюць верасам. У зарачан поле патрабуе над сабою шмат працы, каб мець хоць сярэдні ўраджай. Шмат клопату ў гаспадара над здабываньнем гною, засевам лубіну, здабываньнем торфу і г. д. Так, напрыклад, у 1922 годзе пры даволі значным падатку зарачане пры сваіх мізэрных надзелах, 112 дзес. сваёй зямлі „аддалі ў казну". Прырода, як відаць, ня вельмі шчодра плаціць за іх працу. У іх пяскі. Над паляпшэньнем іх і працуе кожны гаспадар.

Найбольшую ўвагу зьвяртаюць зарачане на прысялібнае поле. Тут сеецца бульба, а за ёю ячмень, пшаніца, здараецца гарох і жыта. Папару тут ня бывае. Амаль з году ў год сюды возіцца гной 1500-1800 пуд. на дзес. Рана вясною ён заворваецца і рана ўсё сеецца. Выгляд зямлі чорны, але прыроду пяскоў пазнаць можна. На гэтым прысялібным кліну бываюць і самыя лепшыя ўраджаі: пшаніца 90 пуд. на дзес. (Марынчык Ів., 1923 г.), бульба—800, а то й 1000 пуд.

На ўсім іншым полі вядзецца быццам двухпольны севазварот; палова поля займаецца жытам, а другая аўсом, лубінам, выкай, буль-

бай. Сюды гной возіцца цераз год. Засеў лубіну ў зарачан—звычайнае зьявішча. Пачалі яго сеяць у 1904 г. Насеньне дасталі ў маёнтку Банцараўшчына. Пад час вайны шмат у каго лубін перавёўся, але з 1922 г. ім карыстаюцца амаль усе гаспадары. *)

Сэрадэля таксама займае тут пачэснае месца. Яе падсяваюць у жыта і гадуюць нават сваё насеньне. **)

Кожная навінка ў сельскай гаспадарцы цікавіць практычных гаспадароў в. Зарэчча I. Яны ўжо даўно ведаюць цану попелу (кожны гаспадар зьбірае і скарыстоўвае яго, як угнаеньне пад бульбу).

*Шмат хто павялічвае запасы гною,* капаючы торф, а то й возячы з гораду гной.

Наогул, зарачане умеюць гаспадарыць. Усе іх скаргі толькі на дрэннае поле—пяскі. „О, калі-б нам суглінак ці хаця супяскі, то мы жылі-б гуляючы і паказалі-б другім, як гаспадарыць“, кажуць зарачане.

Гароды ёсьць у кожнага гаспадара. Жанчыны ўмеюць каля іх хадзіць. З гародаў маюць капусту, гуркі, буракі і г. д.

Сады невялікія.

Зарачанам гаспадарка дае толькі харч сям'і і корм скаціне, хаця сена кожны год прырабляюць. Усе-ж гаспадарскія і хатнія звароты робяцца на заробкі. А яны тут розныя. Вясною ловіцца рыба ў Сьвіслачы; летам зьбіраюцца і прадаюцца грыбы і ягады (чарніцы, суніцы, дзікая маліна, журавіны), зьбіраюць і возяць у горад каменьня; ўвосень і зімою плятуць кашы, вяжуць венікі і г. д. Наогул, увесь год для зарачаніна праходзіць у працы.

Выгляд вёскі Зарэчча I, сяліб і нават хатні быт добрыя. Вуліца роўная,—хаты ў большасьці новыя, чыстыя. Ёсьць і вельмі пекныя, можна сказаць узорныя, сялібы. Амаль усе гаспадары маюць каменныя скляпы.

Моладзь уся пісьменная, актыўная. Лепшымі і культурнымі гаспадарамі можна лічыць Шыманскага Сымона, Мароза Адама, *) Бежыка Антося, Шляхцёнка Антося і шмат інш.

Другая вёска Качына знаходзіцца на правым беразе той-жа рэчкі Сьвіслачы. Поле ўжо тут—не пяскі, а супяскі і мясцамі суглінак, аб якім зарачане толькі мараць. *Іншае поле* і *гаспадарка* ў в. *Качына будуецца іначай.*

Тут трохпольле (3 зьмены). Папар ёсьць, але ў большасьці заняты канюшынай, выкай, гарохам. Лубін, як угнаеньне, ёсьць у 5-10 гаспадароў. Сэрадэлі няма. Бульбы сеюць шмат. Сеюць яе ў яравой зьмене. Прысялібны-ж клін невялікі. Тут сеюць боб, проса (4 гаспадары), корняплоды (кармовыя буракі). На жывёлагадоўлю зьвяртаюць належную ўвагу. Большасьць канюшыны, выкі, бульба корміцца каровамі. Малако да вайны прадавалі па дачам ст. Ратамка. Цяпер яно перарабляецца ў масла і сыр на месцы. Адкорм сьвіней таксама цікавіць гаспадароў. На гадоўлі сьвіней і іх выкарму на продаж, а таксама на даход ад малака, сяляне робяць свае звароты ў гаспадарцы. Тут гаспадары часьцей прадаюць і збожжа. Наогул, гэта ўжо запраўды земляробскі раён.

---

*) У 1922 г. з 23 гаспадароў лубін сеялі 15, у 1923 г.—16, у 1924 г.—20.

**) Першым пачаў сеяць сэрадэлю Шыманскі С.-у 1922 г. У 1923 г. ужо сэрадэлю сеялі 7 гаспадароў.

*) Мароз Адам мае ўжо 93 гады. Гэта адзін з мудрых і старых беларускіх гаспадароў, с.-г. вопыт якіх трэба-б было запісваць.

Ёсьць блізка торф. Сяляне думаюць узяцца за скарыстаньне яго, як угнаеньне. У вёсцы добрыя сады і гароды.

З культурнага боку вёска Качына можа пахваліцца перад Зарэччам. Тут свая школа, коопэратыў, недалёка агропункт, ёсьць гурткі моладзі і г. д. Гэта—асяродак культурнага жыцьця па-над Сьвіслачы. Наогул-жа, сялянам вёскі Качына можна жыць вальней. Сама прырода дала ім лепшае поле; але добра гаспадарыць качынцы шмат чаму могуць наўвучыцца ў зарачан. *)

С. Т.

## С.-г. хроніка.

### Залогавыя пазычкі маламоцнаму сялянству.

Белсельбанку асыгнавана 600 тыс. руб. для выдачы маламоцнаму сялянству грашовых пазычак пад залог хлеба, з мэтаю даць мажлівасьць сялянству прадаць хлеб не сьпяшаючыся ці паволі зрабіць тыя ці іншыя гаспадарчыя звароты.

Пазычкі будуць выдавацца праз с-г. крэдытовыя таварыствы па пасьведчаньням с.-с., тэрмінам на 6 мес.

### Пашырэньне меліорацыі.

На 15 жніўня г. г. па ўсім акругам БССР налічвалася 407 меліорацыйных таварыстваў. Лік членаў меліорацыйных таварыстваў складае 48.838.

Плошча, на якой праводзіцца асушэньне, дасягае 40.889 дзес.

### У Белсельсаюзу.

Белсельсаюз падпісаў умовы з Белгосторгам, Хлебапродуктам і Спажывецкай коопэрацыяй на закупку 1 міл. пуд. збожжа і льнянога семя.

Закупка будзе весьціся праз нізавыя коопэратывы і іх акруговыя саюзы.

Пры здачы збожжа ў коопэратыў сяляне будуць атрымоўваць поўную плату.

Нарыхтоўваецца коопэрацыйны збыт льнянога семя і валакна.

### С.-г. асьвета.

Згодна дэкрэту Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Саўнаркому Беларусі адбылося аб'яднаньне Менскага і Горацкага с-г. інстытутаў з адначасовым утварэньнем Беларускай с-г. Акадэміі ў Горках.

Акадэмія будзе мець 4 факультэты: агрономічны, лясны, меліорацыйны і землябудаўнічы.

Аб'яднаньне навуковых сіл двух школ і матэр'яльных сродкаў у адным месцы дасьць мажлівасьць с-г. Акадэміі ў поўнай меры разгарнуць сваю навучальную і дасьледчую працу.

---

*) На прыкладзе гэтых двух вёсак вельмі выразна падкрэсьліваецца адна думка проф. В. Р. Вільямса, што глеба ў большасьці вызначае ня толькі кірунак гаспадаркі, але багацьце і нават культурнасьць гаспадара. С. Т.

**ДАДАТАК.**

# Рыхтуемся да с.-г. выстаўкі.

**Л. Трыпутнік.**

Асобы:

СІДАР—42 г.
АЎДОЦЬЦЯ—яго жонка, 40 г.
АНДРЭЙ—40 г.
ВАСІЛЬ—28 г.
ВАВІЛА—35 г.
ІЛЬЛЯ—50 г.
МІКІТА—26 г., член сельсавету.
МАРЫЛЯ—20 г., яго жонка.
АЎГІНЬНЯ, удава—48 г.
АНТОСЬ, яе сын—18 г.
ШНІТКА.
ЮСЬКА, жыд, гандлюе птушкамі.
АГРОНОМ—30 г.

## АКТ І.

### Зьява І.

Сідар і Аўдоцьця.

*(Звычайная хата, стол, лавы, печ, каля печы венік, рэшата на сьцяне, ложак).*

Сідар *(ляжыць на ложку і курыць люльку)* Ну, Аўдотка, рыхтуйся да выстаўкі. Я ўжо наважыў, каб першую прэмію зачапіць...

Аўдоцьця *(замятае хату)*. Якраз. Лежачы на ложку найпяршэйшую ўхопіш.

Сідар *(ускочыўшы, падышоўшы да жонкі)*. Дурная ты баба... Працуючы ўсялякі дурань можа даказаць, а вось з розумам трэба так зрабіць, каб працы памені, а карысьці паболі...

Аўдоцьця. Ну, ну, пакажы, што ты з розумам на пасьцелі выляжаў...

Сідар. Ты ня пырскай, баба, але слухай: я на выстаўку хачу паслаць пшаніцу, а ты якую-небудзь курыцу...

Аўдоцьця. Што нясеш?... А дзе-ж у цябе тая пшаніца... Ці не пад печчу вырасла... А курыца ўсю вясну лілася, ссохла як корч—якраз на выстаўку.

Сідар. Ня злуйся, жонка. Зараз у нас зьбіраюцца суседзі, Мікіта прыдзе аб выстаўцы пагаманіць і запісаць, хто што будзе выстаўляць; пасьля прыедзе агроном, усё пераглядзіць і тады ўжо ўсе павязуць... І мы з табой паедзем...

Аўдоцьця. Ці не сябе паказваць будзем?.. Ну добра, але якую-ж ты пшаніцу павязеш, калі мы адзін загончык сеялі, ды й той асотам зрос і кукалём.

Сідар. Я-ж табе кажу, што трэба разумець... А ведаеш пшаніцу ў гародзе? Там градку я перакапаў ды гною наваліў; насеньня-ж жменю я ў земскладзе папрасіў; так далі, бяз грошы. Ну, на градзе й пасеяў...

Аўдоцьця. А, ці ня тыя 10 каліў, што казаў сартовая пшаніца. Я думала назавод...

Сідар. Ага... я-ж яе і паліваў, і палоў... Але-ж, як зьвяжу сноп! О-го! няхай-жа хто другі гэткую пакажа...

Аўдоцьця. Ой, ці добра-ж усё гэта?

Сідар. Справа ўжо мая.

Аўдоцьця. Ну, добра. А дзе-ж мне курыцу ўзяць?..

Сідар. *(на вуха)* У Іоселя купі... хоць за рубля найлепшую...

Аўдоцьця. За рубля курыцу... Да ачумеў ты...

Сідар. Не твая бяда, абы першую прэмію дастаць, тады мы з табой ўгору пойдзем. Пашана, гонар... *(глянуў у вакно)*. Ужо йдуць мужчыны... *(сеў за стол)*.

Аўдоцьця *(ставіць венік у куток і адчыняе дзьверы)* Уваходзьце, уваходзьце!

Зьява II.

Прыходзяць Мікіта з жонкай, Васіль, Вавіла, Андрэй, льля, Шнітка, Аўгіньня, Антось. Вітаюцца: „дзень добры!"

Сідар. Добры дзень, суседзі! Добры дзень, сядайце. *(садзяцца хто дзе)*.

Мікіта. Дзядзька Сідар! Мы сабраліся сюды, каб пагутарыць аб выстаўцы. Вясной агроном вам, гаварышы, тлумачыў, якое значэньне маюць с.-г. выстаўкі, якая з іх карысьць. Я вам толькі ўспомню. На выстаўцы кожны гаспадар можа паказаць, як ён палепшыў сваю гаспадарку, чаго ён дабіўся сваёй працай, якім спосабам вырасьціў пекнае збожжа ці выгадаваў добрую скаціну. На выстаўцы кожны агледзіць і ўбачыць дзе, што і як добра зроблена і сам пастараецца гэтак у сябе рабіць. На выстаўцы мы вучымся—гэта наша школа. Апрача гэтага, лепшыя гаспадары за лепшыя экспонаты атрымаюць прэмію. Я думаю, што вы гэта ведаеце, бо памятаеце, што казаў агроном. Цяпер давайце запішам, хто і што будзе выстаўляць. Праз два месяцы прыедзе агроном, перагледзіць усе экспонаты і выбярэ, што гадзіцца на выстаўку. Дык кажэце, хто што будзе гатаваць?

Аўгіньня. Я хачу нешта запытацца.

Мікіта. А што такое, цётка?

Аўгіньня. Агроном казаў і ты кажаш, дый сама шмат разоў чула пра нейкія „спанаты" ці „ксанаты"—а ці растуць-жа яны ў нас? Я-ж ня ведаю што гэта?

Мікіта *(усьмяхнуўшыся)*. Экспонаты—гэта не расьліна, але ўсё, усялякая рэч, што выстаўлена на выстаўцы завецца экспонатам,—ці карова, ці сьвіньня, ці збожжа, ці бульба—як стануць на выстаўцы, то й завуцца экспонаты.

Аўгіньня. Ну, вось цяпер ведаць буду, а то чую: „спанаты, спанаты", а няведама што... Але-ж яшчэ запытаюся, усё-ж дурной хочацца ведаць,—што гэта будуць даваць за лепшыя спанаты? Таксама нейкае слова, не разьбярэш... прэміі ці як?..

Мікіта. Прэмія—нагрcraда, разумееш?

Аўгіньня. Чаму не разумею. Як растлумачыў, дык усё разумею.

Мікіта. Ну, дык добра. *(дастае паперу і аловак)* Кажэце, хто што рыхтуе да выстаўкі?

Сідар. *(падскочыў на лаве, аж усе засьмяяліся)*. Я—пшаніцу, а мая баба—курыцу.

Андрэй. Каб-жа ў дарозе курыца не зьдзяўбла пшаніцу? *(Агульны сьмех)*. Я думаю паказаць цялушку і канюшыну.

Вавіла. А я маю жыта.

Марыля. Калі гародніну, дык я гарох пастаўлю. Можна?

Мікіта. Стаў. Я павяду жарабка свае гадоўлі.

Андрэй. Ня ведаю, як мне ўжо з канюшынай на выстаўцы будзе, але я й папрацаваў. Зьезьдзіў у Шацак, купіў вапны і пасыпаў па полі скародзіў яе. Канюшына добрая.

Вавіла. А калі ты скародзіў?

Андрэй. Калі? Першы раз вясною, а як скасіў, дык зноў выскарадзіў.

Вавіла. А ці многа-ж накасіў?

Андрэй. І накасіў добра: з поўдзесяціны 8 вазкоў і другі раз добрых вазоў 5 накасіў. Канюшына, браток, пекная.

Вавіла. Я таксама пачаў лубін сеяць...

Мікіта. Яшчэ хто? Ільля, стаў збожжа на выстаўку!

Ільля *(чухае патыліцу)* Ня ведаю... ну, пішы авёс...

Шнітка. У мяне сьвіньня з парасятамі.

Ільля *(скрабе галаву)* Авёс то авёс, але ўвесь зельлем зарос; свірэпка ды кукаль; можа і зусім прападзе пакуль выстаўка.

Шнітка. Дарма! У цябе прападзе ў людзей знойдзеш. А ў мяне авёс на першую прэмію.

Ільля. Дык якая там прэмія будзе?

Шнітка. Кажуць, будуць грошы даваць і першая ці ня сотня рублёў.

Васіль. Пішы мой авёс!

Аўгіньня. А маю бульбу... Я-ж удава—дурная галава, нічога лепшага ня здумаю...

Аляксей. Ня бойся, маці, бульба павінна добрай быць. Я ў агронома пытаўся; кажа, што добра зрабілі.

Мікіта. Ну, добра! Рыхтуйце так, каб усё было гатова на той час, як прыедзе агроном. Я тады абвяшчу ўсім. Але яшчэ ведайце вось што: да кожнага экспонату напішэце картку, пашпарт значыцца.

1) Прозьвішча, імя і адрас гаспадара.
2) Колькі зямлі ў гаспадарцы.
3) Які севазварот.
4) Колькі было засеяна гэтага збожжа.
5) Які сорт.
6) Як выраблялася зямля.
7) Якое ўгнаеньне й калі паложана.
8) Колькі ўрадзіла.

Вавіла *(усё запісваў)*.

Мікіта. Ну, бывайце здаровы, пайду яшчэ ў Зарэчча *(выходзіць, за ім вітаюцца і выходзяць усе)*.

Сідар *(глянуў у вакно)*. Во, лёгак на спаміне. Іоська йдзе!

Зьява III.

Сідар *(у вакно)*. Іоська! Іоська, хадзі сюды!

Іоська *(увахадзіць)*. Добры дзень! А якая-ж патрэба?

Аўдоцьця. Курыцу хачу купіць, але каб вялізную і добрую, на завод.

Іоська. На завод?.. На завод я вам дастану добрую курыцу, але праз тыдзень, цяпер у мяне няма... добрыя ёсьць, але простыя...

Аўдоцьця. Не, простую не хачу. Ты, Іоселька, дастань вялікую і пекную, чуеш?

Сідар *(лёг і закурыў люльку, Іоська вышаў)*.

Аўдоцьця. А ты зноў лёг? Мусіць пшаніцу расьціш...

ЗАСЛОНА.

## АКТ II.

Двор перад Сідаравай хатай, плот, каля хаты прызба; з другога боку пад дрэвам лаўка. (Калі ня можна зрабіць гэтай дэкорацыі, можна ўвесь акт ставіць у Сідаравай хаце).

### Зьява I.

Сідар, Аўдоцьця, потым Іоська.

(*Аўдоцьця сядзіць на прызьбе, Сідар нясе сноп пшаніцы*).

Сідар. Глянь, жонка, няхай-жа хто другі паставіць гэткую пшаніцу. Ці ня варта першай прэміі?!.

Аўдоцьця. А чаму-ж ты яе з карэньнем выдраў? Дай, я адрэжу.

Сідар. О, не! Гэтак-жа й трэба—няхай кожны паглядзіць якія кусты: гэта-ж з аднаго зярняці па 12, па 10...

Аўдоцьця. А Іоську недзе чорт узяў з курыцай...

Іоська (*ідзе, у кошыку курыца*). Дзень добры! Ой, сто за курыца!

Аўдоцьця (*падбегла ды глядзіць*). Казаў за тыдзень, а на 2 месяцы вышла. Што ты за яе хочаш?

Іоська. Я табе дзёшава аддам. Толькі дзеля знаёмасьці, дзеля суседзтва 2 рублі.

Аўдоцьця. Ды што ты? Я-ж авечку куплю за 2 рублі! А за поўрубель ня хочаш?

Іоська. Чаму не хачу, але-ж сам заплаціў 1 руб. 80 кап. А 20 кап. зарабіць трэба? Вы паглядзіце, што за курыца! Золата! Гэта-ж каб на выстаўку, то персую прэмію варта... Няхай гаспадар паглядзіць. Для вас і купляў.

Аўдоцьця. Скуру драць вы толькі любіце...

Іоська. Я-ж не прымушаю. Панясу ў горад—там пэўна за 3 рублі прадам. Гэта ж—індык, ня курыца!

Сідар (*да жонкі*). Бяры, гэта заводная, як піць даць першую прэмію зловіш... бяры, ліха яго!..

Аўдоцьця. Ну, калі ты ўжо кажаш, дык вазьму, але-ж надта дорага! Давай гаспадар грошы! (*да Іоські*). Але я табе гэтых 20 кап. ня дам—і так зарабляеш.

Іоська. Каб я так здароў быў (*бярэ ад Сідара грошы*). Дай-жа божа, каб вялася (*выходзіць. Аўдоцьця нясе курыцу ў хату*).

### Зьява II.

Прыходзяць сяляне з экспонатамі, якія ставяць каля плоту: Андрэй—канюшыну, Васіль—2 снапы аўса, Вавіла—2 снапы жыта, Ільля—дрэнны снапок аўса, Марыля—гарох. Шнітка—2 снапы пекнага аўса, Аўгіньня з Аляксеям—вялікі куст бульбы ў кашы. Шнітка йдзе збоку і ставіць адзін сноп каля плоту, а другі за хату, Ільля—ззаду ўсіх).

Андрэй. Сабраць—сабралі, але што яшчэ агроном скажа?

Вавіла. Пераглядзіць і скажа. Зараз мусіць прыедзе. (*да Ільлі*) Ну, і авёс-жа! З гэткім, брат, аўсом на выстаўку ня варта йсьці—гэта ўжо не на прэмію, але хіба на штраф (*усе сьмяюцца*).

Ільля. Што я буду рабіць, калі травою зрос!..

Шнітка (*ціха да яго*). Вазьмі ў мяне сноп! Бо яшчэ й сапраўды штраф заплаціш... Дай поўрубель, дык зараз выставім сноп, як золата. За хатай вось ляжыць...

Ільля (*Шнітку*). Поўрубель за сноп? Адурэў ты, ці што.

Шнітка. Ну, дык плаці рубель штрафу,—жарты... мая бяда...

Ільля. За што штраф?

Шнітка. За такі авёс, як сьмецьце... за мой дык прэмію можна... Забірай свой: скажы, што дома адменіш...

Ільля (*голасна*). Панясу дамоў... мо' лепшы выбяру... (*выходзіць*).

### Зьява III.

(Тыя самыя бяз Ільлі, агроном і Мікіта).

Агроном. Дзень добры, таварышы сяляне!

Мікіта. Дзень добры, таварышы! (*усе здароўкаюцца*).

Агроном. Таварышы сяляне! Я з вамі ўжо колькі раз гутарыў аб усялякіх гаспадарскіх справах, таксама колькі раз напамінаў аб „Сьвяце Ўраджаю“ і аб выстаўцы. Сёньне мы выбярам налепшыя экспонаты, а найлепшымі будуць тыя, на якіх будзе відаць ваша праца і вашы дасягненьні.

Сідар. Вось мая пшаніца!

Аўдоцьця (*вышла з хаты з курыцаю*).

Вавіла. Пачакай! Няхай сам скажа...

Аўдоцьця. Курыца мая!

Агроном. Жывёлу паглядзім пасьля. Трошкі пачакай! Чыё жыта?

Вавіла. Маё, таварыш агроном! Вось гэты сноп—з поля, дзе сеяў лубін. З дзесяціны сабраў 18 коп, умалот з капы 4 $^1/_2$ пуды. А гэты—сабраў там, дзе ў жыта падсеяў сэрадэлю. Сэрадэля цяпер на прасторы. Усё поля зялёнае, бо жыта зжаў, але й жыта вырасла добрае, заўважце самі!

Агроном. Маладзец! Будзеш добры гаспадар. Пісьменны?

Вавіла. Пісьменны,—вось я сам і пашпарт да снапоў напісаў... Мікіта тлумачыў, ды й сам у „Плузе“ прачытаў (*падае паперкі*).

Васіль (*да Вавілы*). У нумары якім напісана?

Вавіла. Ня ведаю. Памятаю толькі артыкул „Трэба рыхтавацца да выстаўкі“. Схадзі ў хату-чытальню й перачытай!

Агроном (*паглядзеў на паперкі*). Во, добра! Авёс гэта чый?

Шнітка. Мой, вось пашпарт.

Агроном. Пекны. Але-ж я ў цябе бачыў гэты авёс! А вось канюшына... дзе гаспадар?

### Зьява IV.

Тыя самыя і Ільля.

Ільля (*ціхачом увашоў і паставіў Шніткаў авёс*).

Андрэй. Я. Адзін сноп—канюшына першага году, а гэта—другога.

Агроном. А як ты яе сеяў, колькі ўзяў?

Андрэй. Сеяў звыкла, з ячменем, але ваппай трохі пасыпаў, бо зямля падзолістая. Вясною і пасьля першага ўкосу скарадзіў. А сабраў раз вазоў з 8—пудоў мусіць 150 ці больш, а другі раз вазоў 5; а ўсяго сеяў поўдзесяціны...

Агроном. Пекны экспонат. Хто яшчэ?

Ільля (*высака падносіць падменены сноп*). Мой авёс!

Агроном. А, Ільля! Авёс? Добры... На пяску тваім гэткі вырас? Як-жа ты яго сеяў? Пашпарт маеш?

Ільля. А то як-жа? (*Кідае авёс ды дастае з-запазухі свой пашпарт*). Проша!

Агроном. Чудак! Гэта-ж твой пашпарт, ён мне не патрэбен, я цябе й так добра ведаю. А я пытаюся ці ёсьць пашпарт на твой авёс,—во, як другія давалі? (*Агульны сьмех, Ільля глядзіць дурнымі вачыма*).

Ільля. Я... Няпісьменны...

Агроном. Але-ж і неразумны. Здаецца мне, што авёс гэты ня твой.

Ільля. Як-жа гэта вы пазнаеце? Ці на ём напісана?..

Агроном. Калі хочаш, дык і напісана. Гэткі авёс можа вырасьці толькі на нізіне, на суглінках. Во якая салома,—а ў цябе пясок... Я-ж вашу вёску ведаю,—вось у Шніткі можа... А... Ці не ў яго ты ўзяў?... (*Шнітка ціхачом выходзіць*). Эх ты Ільля... Але-ж і Шнітка... А я думаў—ён добры гаспадар, шчыра будуе новую вёску?

Ільля. Я баяўся штрафу... што авёс мой благі...

Агроном. Эх ты, галава. З цябе і трэба-б было штраф ўзяць за тое, што дурны, ды ня слухаеш, калі добраму навучаюць. Чаму вось Вавіла ці Андрэй навучыліся?... А вось гэты авёс чый?

Васіль. Мой. Гэты сеяў насеньнем чыстым, вазіў на агропункт, перагналі праз кукаляадборнік і сартоўку. Сабраў на 1 дзес. 80 пуд., а гэты сноп я стаўляю дзеля параўнаньня—сеяў сваім нячыстым насеньнем, а сабраў толькі 50 пуд. (*Галасы: Бач!.. якая розьніца?!.. ого!..*).

Агроном. Вось вам, сяляне, і навука. А каб мы не зьбіраліся, дык нічога і ня ведалі-б...

Васіль. Вось і пашпарт на авёс, я сьпісаў колькі снапоў было—усё сьпісаў, як казалі.

Агроном. Вельмі добра, што большасьць сялян зразумела значэньне навукі. Цяпер праз пяць год у нас на Беларусі будзе культурная Данія, але Данія савецкая!

Сідар. А маю-ж пшаніцу? *Падносіць сноп. (Галасы):* Вось дык пшаніца! Во, гэта дык сноп!.. гэта на выстаўку!.. а-а... о...

Агроном (*добра прыгледзіўся*). А мне не падабаецца!..

Сідар. Дык якую-ж ганьбу вы даеце?

Агроном. Гэта пшаніца ня ўполі сеяна.

Сідар (*трохі зьмяшаўся*). Дальбог-жа... як-жа вы можаце гэта пазнаць?

Агроном. А вось як: дужа тоўстая салома і вялікія кусты паказваюць, што пшаніца расла на прасторы, на добрай зямлі, а ня ў полі... Ну, скажы колькі дзесяцін сеяў гэтай пшаніцы, колькі сабраў?..

Сідар (*зьмяшаўшыся яшчэ больш*). Дык я... вядома... поле не вялікае...

Агроном. Ой дзядзька, дзядзька! Ці-ж гэта выстаўку робяць дзеля забавы? Выстаўка—гэта школа. На выстаўцы трэба паказаць сваю працу, каб і другія ахвоціліся, а ты, стары, пасадзіў некалькі зярнят недзе ў гародзі, ды й цешышся... Ты-ж сябе абманваеш і людзей хочаш зводзіць пекнай пшаніцай... Без працы, дзядзька, нічога добрага ня будзе... Гэтага экспонату ня возьмем.

Аўдоцьця (*да Сідара*). А што, разумны, зарабіў?..

Агроном. Гаспадыні! Пакажыце вы сваю працу.

Марыля. Вось мой гарох. Пашпарт Мікіта напісаў...

Агроном. Твой гарох ведаю, бачыў у гародзе. Добры!

Аўгіньня (*з Антосем ставіць у кошы бульбу*). Вось мая бульба, свая родная, не купленая. (*Агульны сьмех*). Пашпарту сама не пісала, сын напісаў, але ўсё раскажу. Вядома, я ўдава-дурная галава, зямелькі на поўладоні, а есьці трэба... Дык я зямельку ўскапала лапатай... з сынам разам, усяго восьмую частку ад дзесяціны... Бульбу адбірала, што больш вочак; пасадзіла рэдка, амаль на аршын, ды попелам трошкі патрусіла. Як ужо пара была ёй усходзіць, дык я граб-

лямі добра паскародзіла; на заўтра яна выклюнулася, як кураняткі з-пад курыцы. (*Галасы):* Вось дык баба. Спрытная... Яшчэ мужыка навучыць)...

Аўгіньня. Як падрасла, дык папрасіла суседа паганяць, ды матыкай абсыпала. Да красаваньня яшчэ два разы абсыпала. Бульбоўнік, як стаў сохнуць, пажала. Цяпер-жа, як выбірала, дык зважыла кош і кашы палічыла. На гэтай васьмушцы—далоні сабрала ўсяго 253 пуды. Вось і ўсё.

Агроном. Вось баба! Глядзіце, які маладзец! Не, цётка, ты ня дурная, а ўдалая галава! Цябе проста ў дэлегаткі выбраць! Во, як бульбу ўправіла! Ну, а зараз агледзім жывёлу! Хто мае, праз паўгадзіны зьбірайцеся. Але тут, здаецца, Сідарава гаспадыня курыцу трымала? Нясі, цётка, паказвай!

Аўдоцьця. Вось я...

Агроном. Добрая курыца (*усьмяхаецца ды галавой круціць*). Ці многа-ж у цябе гэткіх курэй...

Аўдоцьця (*зьмяшалася, ды на Сідара зірнула*). Чаму?..

Агроном. Няўдача табе, цётка. Гэту курыцу ўчора мая маці Іоську прадала... Я яе сам некалі з Масквы прывез, яна ўжо ці не старэй за мяне (*агульны сьмех*). Каб ты гэткіх курак выгадавала, дык іншая справа, а то... Іоська 80 кап. даў маці... а ты колькі?..

Аўдоцьця. Ах, каб яго ліха! Цэлы рубель перабраў... (*схапілася ды змоўкла. Агульны сьмех*).

Агроном. Во і абмовілася, цётка! (*Засьмяяўся*).

Андрэй. Я так і казаў—курыца зьдзяўбла пшаніцу і сама скапыцілася!.. (*Агульны сьмех. Усе разыходзіцца і забіраюць свае экспонаты*).

Агроном. Ну, бывайце здаровы! (*Выходзіць*).

Аўдоцьця (*да Сідара*). Ну, што разумны? Навучыў! Бяз працы дастаў першую прэмію? Пашану?.. Добрую пашану зарабілі перад усімі!.. (*Замахваецца курыцай*). Цяпер толькі гэтай курыцай табе ў нос!

ЗАСЛОНА.

---

**Выданьне Наркамзема.** Адк. рэд. Зьм. **Прышчэпаў.**

Рэд. кол. { *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*